◂ № 12 (284) ◂ 23 сакавіка ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**РАДЗІМА ПРЭЗІДЭНТА БНР**

Стар. 5

**СВАІХ НЕ ЗДАЮЦЬ**

У рэдакцыю «НЧ» звярнуўся Андрэй Мініч, супрацоўнік праваахоўных органаў — ад лістапада 2008 года ён спрабуе прыцягнуць да адказнасці дактароў Жодзінскай цэнтральнай гарадской бальніцы за смерць сваёй маці

Стар. 6

**ВА УКРАІНЕ ПРОСЯЦЬ СМЕРЦІ**

Пакуль беларускае грамадства патрабуе ад улады як мінімум мараторыя на смяротнае пакаранне, украінцы мараць пра адваротнае

Стар. 12

**ДЗІЦЯЧЫМІ ВАЧЫМА — ВАЙНА**

Стар. 14–15

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**НКУС СУПРАЦЬ РАДЗІВІЛАЎ**

Артыкул гісторыка Ігара Мельнікава

▸ **З НАГОДЫ**

# КАПЕЦ ШМАТВЕКТАРНАСЦІ

Вольга ХВОІН

**Пасля вяртання Аляксандра Лукашэнкі з пасяджэння Міждзяржаўнага савета Еўразійскай эканамічнай супольнасці стала зразумела — цяпер кіраўнік Беларусі асабліва трымаецца Расіі, якая засталася ці не адзіным уплывовым партнёрам у «шматвектарнай» знешняй палітыцы Беларусі.**




Цяпер, прынамсі вербальна, кіраўнік Беларусі гатовы адправіцца ў абдымкі Расіі. Хаця не так даўно былі інфармацыйныя войны, дэманстратыўнае ігнараванне падпісання дамовы па КСАР АДКБ ды іншыя «цёркі» паміж дзвюма «брацкімі дзяржавамі».

Лукашэнка выступіў першым інтэгратарам: у Маскве абмяркоўвалася пераўтварэнне ЕўрАзЭС у Еўразійскі эканамічны саюз, што азначае больш цесную інтэграцыю. «Мы сапраўды не прынялі гэты праект дагавора, не падпісалі. Чаму? Таму што Казахстан выступіў катэгарычна супраць эканамічнага саюза. Казахстан запярэчыў на нашы прапановы — расіян і беларусаў, а мы былі адзіныя ў падпісанні дагавора. Мы сказалі: «Так, дамову трэба падпісваць аб саюзе». Яны заявілі аб тым, што не трэба паскараць гэты працэс: «Дамаўляліся ў 2015 годзе выйсці на ўзровень саюзных адносін — давайце ў 2015 годзе», — тлумачыў кіраўнік Беларусі ігнараванне яго інтэграцыйнага энтузіязму. — Раней мы прынялі падобнае рашэнне і дамовіліся, што з 2015 года мы будзем у гэтым Еўразійскім эканамічным саюзе. Тут рускія прапанавалі паскорыць гэты працэс. І беларускі бок іх падтрымаў, звярнуўшы ўвагу на дзве пазіцыі. Там у дамове, у праекце дагавора, які яны самі прапанавалі, было напісана, што наша камісія, эканамічная камісія Хрысценкі, мае права ад імя траіх на міжнароднай арэне заключаць дамовы. Вось я даслоўна сказаў: «Мы не супраць. Калі гэта будзе каменем спрэчак, то мы пагодзімся на гэта».

Што здарылася з ненахіляемым і незгаворлівым палітычным лідарам? Апошнім часам знешняя палітыка знаходзіцца ў такім дэкадансе, што блізка край. Нічога не маю супраць краін трэцяга свету, але фраза Лукашэнкі: «Мы павінны мець рэзерв, дыверсіфікаваць нашу знешнюю палітыку. Таму мы адкрываем амбасады ў такіх буйных і вядомых дзяржавах, як Нігерыя» выклікае хіба што горкую ўсмешку. Бо польскі еўрапарламентарый Яцэк Пратасевіч гаворыць пра тое, што ў Беларусі праца амбасадаў краінаў ЕС можа быць скарочаная да консульскага ўзроўню. А былы пасол Польшчы ў Беларусі на ўмовах ананімнасці гаворыць Радыё «Свабода», што звядзенне дыпламатычнай прысутнасці да консульскага ўзроўню ёсць знакам таго, што «паміж краінамі няма палітычных адносін. Калі няма палітычных адносін, гэта азначае, што краіна не з'яўляецца суверэннай».

Сустрэча Лукашэнкі ў Маскве праходзіла на фоне блізкага разгляду ЕС пытання аб увядзенні кропкавых санкцый супраць прадстаўнікоў беларускага рэжыму. «Санкцыі — гэта вельмі моцны палітычны і эканамічны пасыл краіне, — заявіла вярхоўны прадстаўнік Еўрасаюза па знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан на пасяджэнні камітэта Еўрапарламента па міжнародных справах 20 сакавіка. — У дачыненні да Беларусі мы выказваем сваю пазіцыю вельмі ясна, і будзем рабіць гэта і надалей. ...Мы таксама пасылаем вельмі ясны паралельны палітычны сігнал адносна таго, што вы (урад Беларусі — БелаПАН), павінны зрабіць: вы павінны вызваліць гэтых людзей (палітвязняў — БелаПАН) з турмы, вы павінны дазволіць ім вярнуцца да сваіх сем'яў».

Ад тэмы эканамічных санкцый беларускае кіраўніцтва ліхаманіць. І, калі меркаваць па інфармацыі, што рэгулярна з'яўляецца ў публічным доступе, робіцца ўсё магчымае, каб гэтага радыкальнага кроку пазбегнуць. Напрыклад, выданне «EUobserver» піша, што цяпер у дыпламатычных колах ЕС ідзе абмеркаванне спісу беларускіх чыноўнікаў і бізнэсмэнаў, якім можа быць забаронены ўезд на тэрыторыю ЕС. У гэтым спісе значыцца ў тым ліку кіраўнік групы кампаній «Трайпл» Юрый Чыж. А бізнэсовец Уладзімір Пефціеў, ужо ўключаны ў «чорны» спіс ЕС, спрабуе аспрэчыць дадзенае рашэнне ЕС у Еўрапейскім судзе. «Вы не можаце сабе ўявіць, як шмат людзей тут (у Брусэлі) пабывала», — паведаміла крыніца, маючы на ўвазе дыпламатаў, сябраў НДА і фірмы, якія раілі выключыць Пефціева з «чорнага» спісу.

І вось у такіх абвостраных стасунках з Захадам Лукашэнка дэманстратыўна паказвае сваю аўтаномнасць у прыняцці рашэнняў. Перад яго паездкай на пасяджэнне Міждзяржаўнага савета Еўразійскай эканамічнай супольнасці былі выкананыя смяротныя выракі Канавалаву і Кавалёву. Беларусь застаецца апошняй краінай у Еўропе, дзе дзяржава легальна забірае ў чалавека жыццё, і гэты пункт ёсць не менш спрэчным, чым наяўнасць палітычных зняволеных.

Пачалі дзейнічаць спісы невыязных з краіны, ужо не першы год закрытая дарога ў сінявокі цэнтр Еўропы для многіх палітыкаў і грамадскіх дзеячаў замежжа, уключна з Нобелеўскімі лаўрэатамі. Кожны з пералічаных фактаў ёсць чарговай прыступкай, што аддаляе Беларусь ад Заходняй цывілізацыі.

Цяпер пад «шматвектарнай» знешняй палітыкай масты ў заходнім кірунку палаюць яркім полымем, і кіраўнік дзяржавы фактычна ўласнаручна падлівае ў агонь алею. Гэтыя паводзіны цяжка патлумачыць з пункту логікі, але калі паглыбіцца ў курс аналітычнай псіхалогіі... Натуральна, ва ўмовах «жалезнай заслоны» з Захадам застаецца дэманстраваць Расіі лаяльнасць і згаворлівасць. Перакрые Крэмль кранік з ільготнымі энерганосьбітамі — і капец стабільнасці.

Козыры Аляксандр Лукашэнка вымушаны паступова здаваць. І ўсё ж застаецца адзін (дзякуючы яго супраціву, а не падтрымцы), які не выкідваецца ў адбой, — нацыянальна свядомая супольнасць. На Дзень Волі (угодкі падпісання дэкларацыі БНР) улады Мінска дазваляюць афіцыйнае шэсце, хоць і не па цэнтральнаму праспекту. Існаванне ў краіне нацыянальнай апазіцыі — гэта аргумент у захаванні сябе. Для Масквы больш прывабным ёсць кіраўнік «рускі са знакам якасці», чым той, хто пачне выводзіць Беларусь да ідэі «людзьмі звацца».

## СКАНДАЛ

### БРЭСТ. АКЦЫЯ Ў ПАДТРЫМКУ КАВАЛЕНКІ

Актывісты грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!» 20 сакавіка правялі акцыю ў падтрымку Сяргея Каваленкі.

У шматлюдных месцах горада яны расклеілі прыкладна 100 улётак. На кожнай з іх партрэты Каваленкі і суддзі, якая вынесла яму прысуд, а таксама надпіс: «Думаеце, вас гэта не закране… Чакайце новы ГУЛаг».

«Гэтай акцыяй мы хацелі не толькі прыцягнуць увагу да лёсу палітзняволенага Сяргея Каваленкі, але і выказаць пратэст супраць палітычных рэпрэсій у нашай краіне, дзе за дэманстрацыю нацыянальнага сцяга асуджаюць на пазбаўленне волі», — паведаміў актывіст кампаніі Марат Несцярэнка.

Ён адзначыў, што 20 сакавіка яны накіравалі бацькам Каваленкі лісты, у якіх выказваюць ім сваю падтрымку, надзею на хуткае вызваленне сына і віншуюць з Днём Волі.

Нагадаем, 24 лютага суд Першамайскага раёна Віцебска прыгаварыў Сяргея Каваленку да двух гадоў і аднаго месяца пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Апазіцыянер абвінавачаны ва ўхіленні ад адбывання пакарання ў выглядзе абмежавання волі (арт. 415 КК). Гаворка ідзе аб пакаранні, якое вынесены яму ў маі 2010 года суд Кастрычніцкага раёна Віцебска за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на галоўнай навагодняй ёлцы Віцебска.

З 19 снежня мінулага года Каваленка знаходзіцца ў зняволенні. У знак пратэсту ён абвясціў галадоўку. У турэмную бальніцу Каваленку перавялі з віцебскага СІЗА па стане здароўя: падчас галадоўкі зняволены страціў больш за 30 кг вагі.

Вызвалення апазіцыянера патрабуюць беларуская дэмакратычная грамадскасць і міжнародныя структуры.

**Паводле БелаПАН**

### БАРАНАВІЧЫ. ВІНШАВАННІ ПАЛІТВЯЗНЯМ

Неабыякавыя жыхары Баранавічаў з нагоды 94-й гадавіны абвяшчэння Незалежнасці напісалі 37 каляровых паштовак палітвязням.

Віншавальныя лісты і каляровыя паштоўкі са словамі падтрымкі былі адпраўлены Андрэю Саннікаву, Мікалаю Статкевічу, Зміцеру Бандарэнка, Паўлу Севярынцу, Эдуарду Лобаву, Зміцеру Дашкевічу, Мікалаю Аўтуховічу, Алесю Бяляцкаму, Мікалаю Дзядку, Аляксандру Францкевічу і Ігару Аліневічу.

«Мы павіншавалі нашых змагароў за Беларусь, дэмакратыю і вольныя выбары з надыходзячым светлым і найгалоўнейшым святам беларусаў — 25 сакавіка, калі была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Мы пажадалі нашым сябрам і аднадумцам моцнага здароўя і найхутчэйшай вызвалення», — паведаміў гарадскі каардынатар Руху «За Свабоду» Віктар Сырыца.

**Паводле інфармацыі Руху «За Свабоду»**

## ПАРТЫІ

# З'ЕЗД АДБУДЗЕЦЦА

**Генадзь КЕСНЕР**

**Дагэтуль не вызначана, дзе будзе праходзіць з'езд АГП. Пра гэта паведамілі кіраўнікі АГП Анатоль Лябедзька і Леў Марголін.**

Па словах намесніка старшыні АГП Льва Марголіна, на з'езд, які адбудзецца 31 сакавіка, чакаецца прыбыццё 180 дэлегатаў, а таксама гасцей і прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі. «Таму вельмі праблематычным было б правядзенне форума ў сядзібе партыі. Два з паловай месяцы таму кіраўніцтва АГП накіравала лісты ў 11 установаў, якія маюць адпаведныя памяшканні, з просьбай прадаставіць залу для правядзення партыйнага мерапрыемства. З пяці такіх установаў ужо прыйшлі адмовы ў прадастаўленні памяшкання. З іншых пакуль няма ніякіх адказаў», — паведаміў палітык.

Леў Марголін мяркуе, што і тыя адказы, якія прыйдуць з іншых установаў, таксама могуць быць адмоўнымі. «Таму 12 сакавіка мы накіравалі два лісты ў Мінскі гарвыканкам і Міністэрства юстыцыі з паведамленнямі, што ёсць пагроза ажыццяўленню нашай статутнай дзейнасці, таму патрабуецца дапамога ад гэтых дзяржаўных структур. Пакуль што там таксама маўчаць. Мы будзем праводзіць з'езд у любым выпадку, нават тады, калі не атрымаем памяшкання. У нас ужо ёсць адпаведныя напрацоўкі», — заявіў намеснік старшыні АГП.

Кіраўнік партыі Анатоль Лябедзька паведаміў, што на з'ездзе плануецца прыняць некалькі важных дакументаў. «У першую чаргу, гэта стратэгія партыі — дакумент, над якім мы працавалі дастаткова доўга і плённа. Гэта той калідор, па якім мы пойдзем наперад. Акрамя таго, мы зробім чарговую спробу ўнесці змены ў наш статут. На папярэднім з'ездзе такія спробы былі зроблены, але Міністэрства юстыцыі адмовіла нам у наданні ім юрыдычнай прававой сілы. Тым не менш, мы робім чарговую спробу, бо гэта надасць дынаміку нашым дзеянням, створыць умовы для больш мабільнай дзейнасці», — падкрэсліў Анатоль Лябедзька.

## 25 САКАВІКА

# ДЗЕНЬ ВОЛІ

**Генадзь КЕСНЕР**

**Мінгарвыканкам дазволіў правядзенне акцыі на Дзень Волі 25 сакавіка ў прапанаваным заяўнікамі фармаце.**

На сустрэчы з журналістамі аргкамітэт прадстаўлялі яго старшыня, кіраўнік Рады беларускай інтэлігенцыі Уладзімір Колас, сябра аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларускі рух» Віктар Івашкевіч, старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі, ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі быў Уладзімір Раманоўскі, ад Руху «За Свабоду» — Аляксей Кавалец, ад кампаніі «Еўрапейская Беларусь» — Сяргей Казакоў, ад мастацкай суполкі «Пагоня» — Аляксей Марачкін.

Уладзімір Колас адразу адзначыў, што сустрэча заяўнікаў з прадстаўнікамі сталічнага выканкаму адбылася ў атмасферы паразумення, сталічныя ўлады пагадзіліся з прапанаваным арганізатарамі фарматам акцыі. Збор удзельнікаў пачнецца 25 сакавіка ў 13.00 каля будынку прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук, адкуль у 14.00 рушыць шэсце па праспекце Незалежнасці, далей па вуліцы Сурганава да Парку Дружбы народаў у раёне Плошчы Бангалор, дзе адбудзецца мітынг. Па словах спадара Коласа, удзельнікі мітынгу будуць змушаны прайсці праз металашукальнікі, якіх будзе шэсць, з сабой забараняецца мець колючыя прадметы. На месца мітынгу можна пранесці не больш за паўлітра вадкасці ў пластыкавай бутэльцы. Улады паабяцалі не перашкаджаць удзельнікам выкарыстоўваць нацыянальную сімволіку, транспаранты і іншыя атрыбуты. Будзе арганізавана дружына, каб выключыць магчымыя правакацыі і гарантаваць парадак падчас шэсця і мітынгу.

Старшыня аргкамітэту адразу адказаў усім скептыкам, якія крытыкавалі арганізатараў за намер праводзіць акцыю 25 сакавіка на Бангалоры. «Для нас сёння галоўнае не месца, а тое, каб мы былі разам. А потым можна будзе прэтэндаваць і на іншыя месцы. Пакуль што плошча Бангалор, і мы заклікаем усіх быць там 25 сакавіка», — адзначыў Уладзімір Колас.

«Каля дзесяці музыкаў далі згоду выступіць з гітарамі ў акустычным варыянце на плошчы Бангалор і выканаць свае творы на тэму незалежнасці і свабоды. Далі згоду прыняць удзел у мітынгу шмат хто са сваякоў палітвязняў, а таксама лідары палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў. Што тычыцца нашага крэатыву, дык гэта тое, што людзі павінны адчуць, што персанальна ад іх залежыць лёс Беларусі і крэатыў падчас мерапрыемства, — падкрэсліў Віктар Івашкевіч. — Абвешчаны галоўныя лозунгі: «За незалежную Беларусь!», «За свабоду палітвязняў!», «За свабодныя выбары!». Няхай кожны зробіць такі плакат сам, са сваімі сябрамі, няхай прыдумае нешта іншае. Кожны мусіць пачаць з сябе, і мы звяртаемся: людзі, самі бярыце свой лёс у свае рукі, самі бярыце сцяг і самі прыносьце яго на месца!»

Арганізатары заяўлялі да тысячы ўдзельнікаў акцыі, але выказалі спадзяванне, што ў нядзелю на акцыю прыйдзе значна больш людзей. Сябры аргкамітэту нават гатовыя несці адказнасць перад уладамі за перавышэнне колькасці мітынгоўцаў.

## МОВА

# ПДР ПА-БЕЛАРУСКУ

**Марат ГАРАВЫ**

**20 сакавіка ў сядзібе ТБМ адбылася прэзентацыя беларускамоўнага варыянту Правілаў дарожнага руху Рэспублікі Беларусь, якія прайшоў экспертызу ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.**

Гэтае прыгожае даведачнае выданне, з густам надрукаванае тыражом у 200 экземпляраў, пабачыла свет у сталічным выдавецтве «Радыёла-плюс».

Каардынатар праекта, першы намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім выказала падзяку ўсім прадстаўнікам грамадскасці, хто спрычыніўся да падрыхтоўкі і выдання правілаў, у першую чаргу — маладым сталічным навукоўцам Святлане і Юрасю Гецэвічам, якія па сваёй уласнай ініцыятыве працавалі над гэтай тэмай, палічыўшы яе важнай і актуальнай, а потым перадалі свае напрацоўкі кіраўніцтву грамадскага аб'яднання. Тэкст кніжкі адпавядае прынцыпам дакладнасці, аднастайнасці і выверанасці.

Анісім паведаміла, што ўжо падрыхтавана электронная версія канспекта па вывучэнню Правілаў дарожнага руху на беларускай мове, а таксама запланавана падрыхтаваць тэставыя матэрыялы для беларускамоўнага экзамену на правы кіроўца. Паводле яе слоў, нядаўна ў грамадскага аб'ядняння з'явіўся свой інтэрнэт-партал tbm-mova.by, на якім змешчана электронная версія правілаў.

Паводле слоў старшыні ТБМ Алега Трусава, кніжка рыхтавалася грамадскім аб'яднаннем каля шасці гадоў. З улікам усіх заўваг мяркуецца падрыхтаваць да восені гэтага года наступнае выданне правілаў і надрукаваць яго масавым тыражом. Каб правілы дарожнага руху сталі афіцыйным дакументам,зацверджаным указам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, кніга будзе перададзена ўладам. Разам з тым, старшыня ТБМ выказаў падзяку Адміністрацыі прэзідэнта і ўпраўленню Дзяржаўтаінспекцыі Міністэрства ўнутраных спраў за дазвол на выданне правілаў.

Юрась Гецэвіч адзначае, што выданне правілаў з'яўляецца прэцэдэнтам, які паказвае беларусам, як падрыхтаваць пераклад на родную мову любога важнага дзяржаўнага дакумента, правесці яго лінгвістычную экспертызу ў акадэмічным Інстытуце мовы і літаратуры, а затым выдаць.

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ВЯЧОРКА — ТАКСАМА НЕВЫЯЗНЫ

**Генадзь КЕСНЕР**

**У ноч на 22 сакавіка з цягніка на Варшаву быў зняты вядомы беларускі палітык і грамадскі дзеяч, былы старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка.**

Ён па прыватных справах «на перакладных» (бо так танней) накіроўваўся ў Прагу, дзе праходзіць стажыроўку ягоны сын.

Ехаў Вінцук Вячорка разам з чатырнаццацігадовай дачкой, але гэтыя абставіны не перашкодзілі памежнікам сярод ночы развярнуць палітыка і ягоную дачку. Падрабязнасці пра абставіны адбытага Вінцук Вячорка распавёў «Новаму часу»:

— Напярэдне 13 сакавіка я звярнуўся ў Аддзел грамадзянства і міграцыі Савецкага раёна Мінска, каб мне сказалі, ёсць я ў іх базах нядобранадзейных ці не. Яны пагльдзелі і сказалі, што няма. Я папрасіў даведку, хоць яны і не надта хацелі мне яе даваць, але паводле закона я без усялякай матывацыі маю права такую даведку хацець. Мне яе выдала маёр Іна Арэх. Прычым, у яе на сцяне вісіць падзячны ліст камандзіра ўнутраных войскаў. Яна сказала, што гэтую даведку мы вам дамо, але яна, маўляў, мае сілу толькі ў межах нашага кабінета, таму што вы выйдзеце, а па дарозе да мяжы невядома што здарыцца. Але даведку я маю.

І вось у Брэсце ў тры гадзіны ночы ў вагон заходзіць маёр, які назваўся начальнікам змены і, выбачаючыся, сказаў, што не можа мяне выпусціць за межы Беларусі. Я пытаюся: чаму? Ці ёсць я ў спісе? У мяне вось ёсць доказ, што мяне ў спісе няма, а вы павінны кіравацца спісам і толькі спісам. Ён кажа: у мяне ўнутраная інструкцыя. Гэта ён паўтарыў тры разы. Таксама незлічоную колькасць разоў ён сказаў: «Вы ж самі ўсё разумееце», на што я ўпарта адказваў, што не разумею, бо я сыходжу з таго, што ў нас, як тут кажуць, праваая дзяржава, таму я патрабую выканання закону і права. Ён быў вельмі ветлівы, сам асабіста завёў нас да дзяжурнага па вакзалу, каб кампенсавалі столькі грошай, колькі магчыма, са страчанага білету да Варшавы. Далейшае падарожжа ўжо не было ніяк кампенсавана.

Выснова такая: калі я не памыляюся, то я першы, хто спачатку атрымаў даведку, а потым не быў прапушчаны праз мяжу. З гэтага вынікае, што тут і блізка не стаяў ніякі закон; тыя, хто прыдумаў гэты палітычны «чорны спіс», нават не паклапаціліся забяспечыць нейкую законную працэдуру. Яны постфактум выдумляюць нейкую лухту, дарэчы, яны падстаўляюць і міліцыю, і памежныя войскі, і армію, калі людзі ідуць у ваенкаматы, а там шырока расплюшчваюць вочы. Я не ведаю, што будзе прыдумана ў маім выпадку. Калі прыеду, то схаджу пацікаўлюся.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ТРАГЕДЫЯ Ў ЖЫЦЦІ




Сяргей САЛАЎЁЎ

**Самым вялікім скандалам на тыдні стаў смяротны прысуд, які быў прыведзены ў выкананне ў дачыненні да мінскіх «тэрарыстаў», — Канавалава і Кавалёва. Фактычна, выкананнем прысуду скончылася следства. З іншага боку, застаецца шмат пытанняў.**

Смяротная кара абвінавачаных у тэрарызме Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава стала для Аляксандра Лукашэнкі «чарговай трагедыяй у жыцці». Пра гэта беларускі кіраўнік заявіў у эксклюзіўным інтэрв'ю тэлеканалу Russia Today.

Інтэрв'ю было дадзена 20 сакавіка падчас візіт Лукашэнкі ў Маскву. «Больш за ўсё я суперажываў бацькам гэтых людзей, якім я дапамагчы не магу. Вось часта пытаюцца: «Што для вас самае цяжкае?» Я ўжо гаварыў неяк публічна, што для мяне самае цяжкае — падпісаць адпаведны ўказ аб непамілаванні. Памілаваў жа я за ўвесь перыяд знаходжання ва ўладзе, па-мойму, толькі аднаго чалавека», — сказаў Лукашэнка.

Ён таксама сцвярджае, што Еўрасаюз ніколі не прасіў яго пачакаць з выкананнем смяротнага прысуду Канавалаву і Кавалёву. «Еўрасаюз ніколі не прасіў мяне пачакаць з пакараннем гэтых людзей. Еўрасаюз заўсёды ад нас патрабаваў адмяніць смяротную кару», — заявіў кіраўнік дзяржавы.

Паводле яго слоў, Захад не прапаноўваў яму ніякіх дыпламатычных саступак. «Мне гэта не прапаноўвалі. Потым, якія гэта будуць палітычныя саступкі? Але нават калі б мне прапанавалі, было б так, як сёння ёсць. Таму што гэта зусім несупастаўная праблема і пытанні. Палітычныя саступкі з боку Захаду патрабуюць палітычных крокаў насустрач Захаду. Гэта чыстая крымінальшчына, прытым вельмі катастрафічная крымінальшчына, даравання якой няма. Я думаю, так бы паступілі і ў Расіі, і ў іншых краінах. Таму няма чаго тут параўноўваць. І яшчэ раз падкрэсліваю: мне гэта і не прапаноўвалася», — сказаў Лукашэнка.

Выбачайце, Аляксандр Рыгоравіч. А пры чым тут Захад? Можа, трэба прыслухоўвацца да сваіх грамадзян? Да маці Кавалёва, якая накіравала на імя Лукашэнкі зварот з просьбай прыпыніць на год выкананне смяротнага прысуду ў дачыненні да сына. «Спадзяюся, што за гэты час зварот, які знаходзіцца на разглядзе Камітэта ААН па правах чалавека, будзе разгледжаны. Калі ласка, дайце магчымасць майму сыну дачакацца вынікаў разгляду звароту ў ААН. Прашу Вас, прыпыніце пакаранне на адзін год», — гаварылася ў лісце.

З іншага боку, калі Лукашэнка кажа, што «самае цяжкае — падпісаць адпаведны ўказ аб непамілаванні», то чаму б калі не памілаваць, а змяніць пакаранне? На пажыццёвае заключэнне, напрыклад. Калі ў яго ўжо так сэрца баліць?

Калі шчыра, то Захад таксама ў баку не застаўся. Перагледзець сваё рашэнне аб непамілаванні Кавалёва і Канавалава Лукашэнку таксама заклікалі еўрапейскія палітыкі і інстытуты, у тым ліку — парламент Еўрасаюза. Так, старшыня Еўрапарламента Марцін Шульц, у прыватнасці, заявіў: «Я глыбока засмучаны звесткамі, што прэзідэнт Лукашэнка адмовіўся памілаваць Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава».

Менавіта кіраўнік дзяржавы прымае ўказы аб памілаванні, і менавіта ён, такім чынам, адказны за забойства людзей. Тымі сваімі подпісамі пра выкананне прысуду. Над паперамі аб выкананні прысуду і аб непамілаванні.

Гэта выклікала і абурэнне ў Расіі. Расія зацікаўлена ў тым, каб усе еўрапейскія краіны, у тым ліку Беларусь, далучыліся да мараторыя на смяротную кару, заявіў міністр замежных спраў РФ Сяргей Лаўроў.

Каментуючы ў інтэрв'ю радыёстанцыі «Камерсант FM» смяротную кару абвінавачаных у тэрарызме Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва, кіраўнік расійскага МЗС адзначыў: «Барацьба з тэрарызмам, канешне, павінна быць бязлітаснай. У той жа час наша стаўленне да смяротнай кары добра вядома — мы даўно абвясцілі мараторый на смяротную кару. Наконт гэтага ёсць спецыяльныя рашэнні, якія былі прыняты Канстытуцыйным судом, і гэтаму мараторыю расійскае кіраўніцтва прыхільнае. Мы ў прынцыпе былі б зацікаўлены ў тым, каб усе еўрапейскія краіны да такога мараторыя далучыліся».

Тым часам, афіцыйны сайт Савета Еўрасаюза паведамляе пра магчымасць узмацнення абмежавальных мер у дачыненні да Беларусі.

У парадак дня пасяджэння Савета міністраў замежных спраў ЕС 23 сакавіка ў Брусэлі ўключаны тры пытанні: аб сітуацыі ў афрыканскім рэгіёне Сахель, аб сітуацыі ў Беларусі і аб сітуацыі ў Сірыі.

«Савет абмяркуе падзеі ў Беларусі і прыме заключэнне. На фоне далейшага пагаршэння сітуацыі ён можа таксама ўзмацніць абмежавальныя меры ЕС», — сказана ў тлумачальнай запісцы да парадку дня.

Як паведамлялася раней, на пасяджэнні 23 сакавіка могуць быць уведзены санкцыі супраць фізічных і юрыдычных асоб Беларусі, адказных за парушэнні правоў чалавека і рэпрэсіі ў дачыненні да апазіцыі і грамадзянскай супольнасці, а таксама супраць тых, хто «падтрымлівае ці з'яўляецца бенефіцыярам рэжыму Лукашэнкі».

І добрая навіна. Улады Мінска санкцыянавалі правядзенне 25 сакавіка шэсця і мітынгу з нагоды Дня Волі. Пісьмовы дазвол гарвыканкама атрымаў 20 сакавіка адзін з заяўнікаў акцыі Віктар Івашкевіч.

Заяўка задаволена поўнасцю. «Дадзены дазвол на збор удзельнікаў акцыі 25 сакавіка ў 13.30 на пляцоўцы каля прэзідыума Акадэміі навук, затым дазволена шэсце па вуліцы Сурганава да парку Дружбы народаў, дзе пройдзе мітынг, які таксама дазволены», — сказаў палітык.

Паводле слоў Івашкевіча, афіцыйны дазвол яму быў уручаны ў Мінгарвыканкаме. «Там прысутнічалі і кіраўнікі міліцыі. У нас дасягнута дамоўленасць аб тым, што не будзе ніякіх перашкод у выкарыстанні нацыянальнай сімволікі, бел-чырвона-белых сцягаў, іншай сімволікі і лозунгаў, якія адпавядаюць фармату мерапрыемства, — святкаванню гадавіны ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі», — расказаў заяўнік акцыі.

**У парадак дня пасяджэння Савета міністраў замежных спраў ЕС уключаны тры пытанні: аб сітуацыі ў афрыканскім рэгіёне Сахель, аб сітуацыі ў Беларусі і аб сітуацыі ў Сірыі**




## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ДАР'Я ДОМРАЧАВА



Біятланістка Дар'я Домрачава выйграла ў расійскім Ханты-Мансійску апошнюю гонку біятлоннага сезона, дапусціўшы 3 промахі. Другое месца заняла нарвежка Тура Бергер, а трэцяй стала фінка Кайса Макарайнен. Гэтая перамога дазволіла Дар'і Домрачавай першынстваваць у агульным заліку гонак з масавым стартам. Гэта другі малы крыштальны глобус беларускі па выніках сезона: раней яна перамагла ў заліку гонак пераследу. Агульны залік усяго сезону выйграла немка Магдалена Нойнер, якая раней абвясціла аб завяршэнні кар'еры. Другое месца заняла Дар'я Домрачава, а трэцяй стала Тура Бергер. У заліку нацый беларуская каманда заняла 5-е месца.

Домрачава 18-ы раз трапіла ў лік прызёраў у гэтым сезоне (17 разоў — у індывідуальных стартах, і яшчэ 1 раз у жаночай эстафеце). Яна заваявала 6 першых, 6 другіх і 6 трэціх месцаў.

### ВІКТОРЫЯ АЗАРАНКА



Тэнісістка Вікторыя Азаранка выйграла чацвёрты буйны турнір у гэтым годзе. У фінале Індыян-Уэлса ёй не было роўных.

«Мінулы сезон многаму мяне навучыў, — цытуе Азаранку афіцыйны сайт СТА. — Я аналізавала, разбірала кожны свой пройгрыш, рабіла адпаведныя высновы і старанна працавала. У мінулым годзе я пацярпела некалькі крыўдных паразаў, і цяпер я імкнуся не паўтарыць дапушчаных памылак. Я вельмі засяроджаная на сваёй гульні і імкнуся быць прафесіяналам кожны дзень».

У фінале турніру ў Індыян-Уэлсе Азаранка перайграла другую ракетку свету расіянку Марыю Шарапаву. «Не скажу, што я адмыслова прыдумвала нейкія хады менавіта пад Шарапаву, я проста спрабавала паказваць свой лепшы тэніс у кожным розыгрышы. Я ведаю, што Марыя — сапраўдны баец, і таму не дазваляла сабе расслабіцца ні на секунду», — заявіла Азаранка.

Як вынік — 23-я перамога Азаранкі запар у гэтым сезоне.

### «ТРОІЦА»



Этна-трыа «Троіца» пад кіраўніцтвам Івана Кірчука атрымала найбольшую колькасць узнагарод за альбом «Зімачка», па версіі Experty.by.

Экспертамі праекта было ацэнена 63 беларускіх альбома. «У 2011 годзе шмат музыкаў выпускалі мноства досыць цікавых дыскаў, — расказаў БелаПАН каардынатар праекта і адзін з экспертаў Зміцер Безкаравайны. — Пры тым іх разнастайнасці, што была, выйгралі і нават проста трапілі ў намінанты сапраўды суперякасныя рэлізы».

Лепшым дэбютам быў прызнаны альбом «Smooth Season» групы «B_Side». Лепшы фолк-альбомам стала «Зімачка» «Троіцы».

Лепшы рок-альбом — «Вясёлыя малюнкі» гурта «Ляпіс Трубяцкой». За лідара гурта Сяргея Міхалка ўзнагарода атрымлівае прадзюсар Яўген Калмыкоў, паколькі Міхалок «часова не пражывае ў Беларусі».

Лепшы беларускамоўны альбом — «Зімачка» «Троіцы». Лепшы рэкорд-лэйбл — «Вігма».

Прэмія за лепшы поп-альбом не ўручалася. «З поп-альбомамі другі год запар нейкая засада — лепшы дыск атрымлівае ў раёне 6 балаў з 10, — растлумачыў Безкаравайны. — І неяк не хочацца даваць лепшы поп-альбом таму дыску, які быў лепшым з горшых».

Лепшы альбом традыцыйна быў абвешчаны па чатырох версіях: штатных экспертаў (чатырох штатных аглядальнікаў партала Experty.by — Дзмітрыя Безкаравайнага, Сяргея Будкіна, Алега Клімава і Дзмітрыя Падбярэзскага), вялікага журы (дванаццаці беларускіх журналістаў), народных экспертаў (карыстальнікі сайта), а таксама замежных экспертаў.

У журы замежных экспертаў традыцыйна ўвайшлі крытыкі з пяці краін, з якімі мяжуе Беларусь. Лепшым альбомам па версіі народных экспертаў стаў альбом «Зімачка» «Троіцы». На другім месцы засталася група «Серебряная свадьба» з альбомам «Сардэчная мускулатура», на трэцім месцы «The UNB» «Д'урбан: гісторыі з жыцця».

Узнагароджанне Experty.by прайшло ў чацвёрты раз. Па выніках 2010 года ў большасці намінацый перамагла група «Дзецідзяцей» з альбомам «Рух», па выніках 2009 года — «The Toobes» з альбомам «Hello», па выніках 2008 года асноўныя ўзнагароды падзялілі «Троіца» з альбомам «Сон-трава» і «Ляпіс Трубяцкой» з альбомам «Маніфест».

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ФІЗІКУ АД ХІМІКА

Сяргей НІКАЛЮК

**Каб зразумець і ацаніць уладу (любую), неабходна напачатку разабрацца з механізмам яе фармавання.**




Што ў мяне можа быць агульнага са старшынёй Савета Федэрацыі Анатолем Рубінавым? Пры жаданні, пункты сутыкнення знайсці нескладана. Па-першае, мы скончылі адну школу (СШ №4 у Мінску) і адзін універсітэт (ён — фізічны факультэт БДУ, я — хімічны). Па-другое, я жыву з яго публічных адкрыццяў на грамадска-палітычныя тэмы. Кожны артыкул акадэміка дазваляе мне, дылетанту ад паліталогіі, выкарыстоўваць свой запас азбукавых ведаў для напісання і веерных рассылак уласных крытычных опусаў. Не стаў выключэннем і апублікаваны ў трох нумарах (!) «Советской Белоруссии» артыкул мэтра беларускай навукі і палітыкі *«Общество. Власть. Время»*.

## Грамадства

Да сутнасці праблемы Рубінаў падыходзіць адразу ж: *«Любое сообщество, как в мире животных, так и в мире людей, требует определенного управления с целью координации своих действий. Если сообщество животных не будет слушаться вожака, оленье стадо не спасется от волков, а волки не добудут пропитания для своих волчат, птичья стая не найдет в небе дорогу домой из жарких стран»*.

Пры пераходзе ад аленяў, валкоў і птушак да чалавека актуальнасць каардынацыі вырастае шматкроць, і віной таму падзел працы. Але і тут на дапамогу чалавеку прыходзіць «дзяржаўная машына» са сваімі інстытутамі і законамі. *«Однако принципы управления в мире животных и мире людей остаются схожими. В обоих случаях сообщество нуждается в лидере и от него во многом зависит, насколько эффективно оно будет функционировать»*.

Словы з коранем *«обществ»* згадваюцца ў артыкуле 49 разоў, тым не менш першая частка трыпціха Рубінава, як няцяжка здагадацца з другой цытаты, на гэтым аказваецца вычарпанай, і аўтар рашуча пераходзіць ад грамадства да ўлады, дакладней, да яе персаніфікаванага носьбіта — іншымі словамі, да лідара.

Аднак я прапаную прытармазіць і вярнуцца да праблемы сацыяльнай каардынацыі. Возьмем, да прыкладу, нападаючага «Барселоны» Ліанеля Месі. Цікава, якім чынам ён каардынуе сваю прафесійную дзейнасць на футбольным полі з паўабаронцам Сескам Фабрэгасам? Хто з іх выступае ў ролі важака? Мяне направяць, што важаком «Барселоны» з'яўляецца трэнер Хасэп Гвардзіёла. Не буду спрачацца, аднак узгадняць перамяшчэнні адзінаццаці футбалістаў на полі ў рэальным часе нават такі выбітны трэнер не ў стане.

А хто каардынуе дзейнасць мільёнаў кітайскіх прадпрымальнікаў? Паводле нобелеўскага лаўрэата Фрыдрыха Хайека, унутры малых груп каардынацыю ажыццяўляюць важакі (кіраўнікі). І ў гэтым сэнсе наш акадэмік мае рацыю, зграя і статак маюць патрэбу ў важаку, аднак калі мы ад малых групаў пяройдзем да вялікага грамадства, дык па ўзроўні эфектыўнасці каардынатар — не супернік спантаннай каардынацыі індывідаў.

Каб патлумачыць апошнюю тэзу, мне давядзецца ўзгадаць пра сваю хімічную адукацыю. 18 грамаў вады ўтрымліваюць $6{,}02 \cdot 10^{23}$ малекул (лічба Авагадра). Гэта я дзеля відавочнасці. Зразумела, што не адзін хімік не здольны сінтэзаваць новае злучэнне, расстаўляючы малекулы на патрэбныя месцы. Ён можа толькі стварыць умовы дзеля яго самаўтварэння. «Падобная працэдура, — сцвярджае Хайек, неабходная і дзеля таго, каб выклікаць працэс, які забяспечвае каардынацыю індывідуальных дзеянняў, што выходзіць па-за межы нашага кругагляду».

Футбалісты «Барселоны» на полі па-за межы кругагляду Гвардзіёлы не выходзяць, аднак, быццам хімік у лабараторыі, ён здольны ўплываць на канчатковы вынік, ствараючы ўмовы для самарэалізацыі спартоўцаў. Не больш шанцаў эфектыўна ўплываць на эканоміку і ў «адзінага палітыка» (АП). Спадзяюся, яшчэ свежыя ў памяці яго мінулагадовыя высілкі па стабілізацыі валютнага рынку, і калі б у кастрычніку курсаўтварэнне не аддалі б на водкуп рынкавай стыхіі, дык хто ведае, куды б завялі нас прынцыпы кіравання, якія, на думку Рубінава, падобныя *«в мире животных и мире людей»*.

## Улада

Аўтар трыпціху прызнае наяўнасць гістарычнага канфлікту, што склаўся паміж уладай і грамадствам. Але калі мяняецца канфлікт, павінен мяняцца і яго завадатар. Улада ў гэтым выпадку, як і жонка Цэзара, — па-за падазрэннямі, а вось простыя грамадзяне вінаватыя ўжо тым, што хочуць усяго і адразу, а таму ставяць свае прыватныя інтарэсы вышэй дзяржаўных. Інтарэсы ж дзяржавы адпавядаюць інтарэсам грамадства ў цэлым. Тут кола замыкаецца, і мне як няспраўджанаму хіміку так і не ўдалося зразумець, дзе ж фізік праводзіць мяжу паміж інтарэсамі грамадства і дзяржавы (улады).

Якія мэты дзяржавы? На думку тытулаванага фізіка, *«ответ, казалось бы, тривиален — обеспечить своим гражданам хорошие условия жизни, удовлетворение их непрерывно растущих потребностей»*. Іншымі словамі, сваёй асабістай мэты ў носьбітаў дзяржаўнай улады няма. З пункту погляду азбукі паліталогіі — думка далёка не ардынарная. Яна супярэчыць не толькі маім асабістым уяўленням пра дзяржаву, аднак і ўяўленням усіх вядомых мне сацыяльных мысляроў. Падмацую сказанае цытатай: «У любым грамадстве, дзе адсутнічае поўнае адзінства і існуе плюралізм інтарэсаў, дзяржава — якая заўгодна згаворлівая — не можа мець іншых мэтаў, акрамя ўласных» (Энтані дэ Ясаі, філосаф).

У адной з папярэдніх азбук паліталогіі я адзначаў, што па ступені доступу грамадзян да прыняцця агульназначных рашэнняў вылучаюцца дзяржавы адкрытага і абмежаванага доступу. Рэспубліка Беларусь належыць да другой групы. Для Рубінава патрабаванні да ўлады з боку грамадства — гэта заўсёды патрабаванні натоўпу, рознага кшталту сходаў і мітынгаў. У такіх умовах улада вымушана ўвесь час упірацца, *«не желая отдавать свои функции и полномочия народу, т.е. всем и каждому? Или, по ленинскому выражению, «каждой кухарке»*.

Палітыка — гэта сфера дзейнасці асобаў, *«обладающих, кроме знаний и опыта, еще и особыми талантами: интуицией, харизмой, силой характера, умением выделить главное и способностью принять оптимальное решение в сложных обстоятельствах»*. Карацей, спецыялізацыя працы — гэта аснова цывілізацыі, і таму людзі, *«обладающие особыми талантами»*, (прадстаўнікі палітычнай эліты) не дапускаюць да ўлады асноўную масу насельніцтва для яго ж (насельніцтва) карысці.

## Рукі прэч ад харызматыкаў

Шмат з чым, працытаваным вышэй, я згодны. Кухаркі не павінны кіраваць дзяржавай, а для заняткаў палітыкай неабходныя веды, досвед і талент, дый таямнічая харызма яшчэ ні аднаму палітыку не зашкодзіла. Аднак ёсць адзін прынцыповы момант, на які фізік не звярнуў увагу, чым паставіў пад сумнеў усю сваю лагічную канструкцыю. Давядзецца няспраўджанаму хіміку яе дапоўніць.

Дзеля таго, каб ацаніць і зразумець любую ўладу, неабходна перш за ўсё разабрацца з механізмам яе фармавання. Магчымыя два крайніх варыянта: зверху і знізу. Узгадаем савецкую наменклатуру, якая за некалькі дзесяцігоддзяў здзейсніла пераход «ад гераічнага ўзору падзвіжнікаў сусветнай рэвалюцыі (Сталін параўноўваў партыйныя органы з ордэнам мечаносцаў) да дробнамітуслівых столаначальнікаў розных узроўняў, якія зацікаўленыя ў добрым стаўленні да іх начальства і захаванні сваіх прывілеяў» (Юрый Левада, сацыёлаг).

Вынікам такой дынамікі і стала «найвялікшая катастрофа XX стагоддзя», таму што ўлада, якая фармуецца выключна з дробнамітуслівых столаначальнікаў, апынулася не ў стане знайсці адэкватныя адказы на выклікі часу. Максімум, на што дробна-мітуслівыя былі здольныя, — даваць адпіскі на запыты вышэйшага кіраўніцтва.

Важнай характарыстыкай максімальна цэнтралізаванай улады, што абапіраецца на палітычную паліцыю, якая выведзеная з-пад кантролю закону, суда і парламента, з'яўляецца яе безадказнасць. Мінулы год прадэманстраваў нам гэта асабліва яскрава. Трохзначная інфляцыя, амаль трохкратная дэвальвацыя нацыянальнай валюты — і гэта ва ўмовах спрыяльнай знешняй кан'юнктуры. І хто за гэта адказаў, хто пайшоў у адстаўку?

Калі ж шараговыя грамадзяне праз Народныя сходы, у межах прадугледжанай законам працэдуры, паспрабавалі ацаніць дзейнасць палітычных харызматыкаў, дык былі разагнаныя дужымі хлопцамі ў пагонах і без. І дзейнічалі гэтыя хлопцы ад імя той самай дзяржавы, мэта якой, на думку майго апанента, палягае ў забеспячэнні сваім грамадзянам спрыяльных умоў жыцця.

## Ад эліты да клікі

Дзяржавай павінны кіраваць не кухаркі, а эліты (ад фр. elite — лепшыя), гэта значыць найбольш значныя прадстаўнікі грамадства. Аднак і ў гэтым выпадку мы ўпіраемся ў механізм фармавання. Эліты падзяляюцца на адкрытыя і закрытыя. Адкрытую эліту фармуе не эліта. Футбалісты «Барселоны» самі не шукаюць сабе калег па камандзе. Гэтым займаецца трэнер. Варта яму толькі заўважыць, што хтосьці з футбалістаў губляе форму ці дзесьці збоку з'явіўся больш моцны гулец, як ён праводзіць адпаведную ратацыю, што і дазваляе камандзе ўтрымацца ў эліце сусветнага футбола.

Але калі эліта, што аднойчы склалася, замацуе за сабой права самастойна вызначаць свой склад (Палітбюро ЦК КПСС), дык замест развіцця атрымліваецца дэградацыя. Такая эліта са збору лепшых вельмі хутка ператвараецца ў кліку — слова гэта італьянскае і перакладаецца яно як «шайка, банда».

Дзейнасць адкрытай эліты заўсёды публічная, як публічны і механізм адбору. Прэтэндэнты патрапіць у эліту павінны прад'явіць грамадству свае неардынарныя здольнасці (уменне біць па мячу, уменне распрацоўваць і рэалізоўваць сацыяльна значныя праекты) на адкрытым конкурсе і выйсці яго пераможцамі.

У закрытую эліту не выбіраюць, а прызначаюць. Тут патрэбныя асабістыя сувязі і лаяльнасць. Зразумела, што такім чынам сфармаваная эліта новыя высілкі выдаткоўвае на ўтрыманне свайго прывілеяванага становішча. На мове прапаганды гэта называецца «захаваннем стабільнасці». Кожная ж спроба з боку грамадства заклікаць прызначэнцаў да адказнасці разглядаецца як антыдзяржаўная дзейнасць. І гэта сапраўды так. Палітычныя клікі ва ўмовах грамадзянскай адказнасці не здольныя да ўзнаўлення.

25 САКАВІКА

# РАДЗІМА ПРЭЗІДЭНТА БНР ВАСІЛЯ ЗАХАРКІ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Вёска Дабрасельцы, дзе нарадзіўся беларускі палітычны дзеяч, другі прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі Васіль Захарка (1877–1943) — глыбінка Зэльвенскага раёна, ад райцэнтра да вёскі больш за 20 кіламетраў.**

У канцы XIX стагоддзя вёска і маёнтак былі ўласнасцю Ігната Шырмата, які меў 799 дзесяцін зямлі. На пачатку XX стагоддзя ў Дабрасельцах жыло каля 400 чалавек. Але з кожным годам вяскоўцаў станавілася ўсё менш і менш: у 1971 годзе іх жыло 288, у 2003 годзе застаўся ўжо 161 жыхар, а цяпер і таго менш. Паміраюць людзі, асабліва мужыкі.

У Дабрасельцы, калі ехаць з Зэльвы і Міжэрычаў, можна дабрацца з двух бакоў вёскі. Бо сама вёска — гэта адна доўгая заасфальтаваная вуліца. Мне патрапіць у Дабрасельцы давялося з боку праваслаўнай царквы святога Антонія, пабудаванай у 1893 годзе. Але на той час у царкве нікога не было, таму прыйшлося ехаць да вясковай крамы — у другі бок вёскі, каб пагутарыць з вяскоўцамі.

У краме было людна, вяскоўцы куплялі тавары, вялі розныя гутаркі пра сваё жыццё-быццё. Пытаюся: «А ці ёсць у вашай вёсцы Захаркі?». «О-о-о! — усміхнуліся жанчыны. — У нас палова вёскі Захаркі. А вам каторы патрэбен?»

— Мне патрэбны сваякі Васіля Захаркі.

— А каторага Васіля?





Фота аўтара

Вера Іванаўна Міхальчык

— Таго, што жыў за мяжой у Чэхіі.

— А! Гэта трэба вам звярнуцца да Веры Міхальчык, яна жыве ў хаце пад нумарам 15. Яна шмат ведае і памятае.

Я паціху пайшоў па цэнтральнай вясковай вуліцы, потым з невялікага грудочка збочыў да хаты спадарыні Міхальчык. Мяне сустрэла невялікага росту бабуля, але яшчэ жвавая, зацікаўленая і гаваркая. Павітаўся і сказаў жанчыне мэту свайго візіту ў Дабрасельцы. Вера Іванаўна ўзрадавалася, запрасіла ў адзін з пакояў хаты і сказала, што ведае пра Васіля Іванавіча Захарку. «Мама мая Васілю Захарку была родная цётка», — сказала Вера Іванаўна. І адразу задала пытанне: «А ці праўда, што Васілю Захарку ў Слоніме паставілі бюст? І чаму гэта ў Слоніме, а не ў Зэльве?»

— У Слоніме, Вера Іванаўна, ёсць толькі бюсты Леніну. А Васілю Захарку няма. Але прыйдзе час, мы абавязкова паставім помнікі Васілю Захарку ў Зэльве, у Мінску і ў Дабрасельцах. А пакуль толькі адзін помнік яму ёсць на магіле на Альшанскіх могілках у Празе. А ці бачылі вы Васіля Захарку?

— Пры маёй памяці ён у Дабрасельцы прыязджаў два разы, але я яго не бачыла. Аднак я яму пісала лісты, дарослыя дыктавалі, а я пісала. Я вучылася ў царкоўнапрыходскай школе, пісаць і чытаць умела. А вось жонку яго Пелагею бачыла некалькі разоў, яна родам з суседняй вёскі Бязводна.

— А ці ведаеце вы кім быў Васіль Захарка?

— Здаецца, нейкім паслом.

— Так, 2 чэрвеня 1920 года ён быў прызначаны старшынёй Надзвычайнай беларускай дыпламатычнай місіі БНР. Васіль Захарка накіроўваўся ў Маскву па запрашэнні міністра замежных спраў РСФСР Георгія Чычэрына. Там ён выконваў абавязкі старшыні місіі БНР у Маскве. Захарка намагаўся прызнання незалежнасці Беларусі перад савецкімі ўладамі, арганізацыі войска, вызвалення беларускіх палітвязняў на Усходняй Беларусі і матэрыяльнай дапамогі. А з 1928 года і да смерці ён узначальваў Беларускую Народную Рэспубліку. Гэта значыць быў яе прэзідэнтам.

— Вось гэта я ад вас чую ўпершыню. Няўжо ён такі знакаміты беларус?

— Вельмі знакаміты, Вера Іванаўна. А дзе яго была хата, дзе ён жыў?

— Побач з нашай. Але хаты той даўно няма, толькі месца засталося, дзе яна стаяла.

Вера Іванаўна з суседкай паказала мне месца, дзе стаяла хата Захаркі. Маладыя гады будучага прэзідэнта ў Дабрасельцах былі няпростыя. На шаснаццатым годзе жыцця ён застаўся сіратой, маючы пад сваёй апекай сястру і двух братоў. Але Васіль не падаў духам: улетку ён вёў гаспадарку, а ўзімку вучыўся. А ў 1898 годзе быў прызваны на вайсковую службу…

— Вера Іванаўна, а ці ёсць у вас якія-небудзь фотаздымкі Васіля і Пелагеі Захаркаў? — пытаюся ў спадарыні Міхальчык.

— У мяне няма, але мабыць ёсць у маёй малодшай сястры Валі Быкавай.

Мы пайшлі паціху да сястры Веры Міхальчык — Валянціны. Яна адна жыве ў вялікім цагляным доме. Ці не самы вялікі ў Дабрасельцах. «Такі вялікі дом вы пабудавалі сабе ў Дабрасельцах?» — пытаюся ў спадарыні Валянціны.

— Ды гэта не мой. Тут жыў герой сацыялістычнай працы Аляксандр Жамойцін. А калі ён памёр — мы выкупілі ў калгаса гэты дом. Вось цяпер адна тут і жыву, муж памёр, — сказала Валянціна Іванаўна.

— А за што Аляксандр Жамойцін атрымаў такое вялікае званне?

— Атрымаў ён гэта званне ў 1972 годзе за поспехі ў павелічэнні вытворчасці і продажу дзяржаве прадуктаў земляробства. Вось за гэта тады давалі такія вялікія званні.

— Спадарыня Валянціна, а ці ёсць у вас здымкі Васіля Захаркі?

— Былі два, але забрала дачка. Яна жыве ў Маладзечанскім раёне.

— А што гэта былі за здымкі?

— На адным — Васіль Захарка з жонкай Пелагеяй. Ён сядзіць, а яна стаіць побач з ім, паклаўшы яму руку на плячо. Здаецца, здымак быў зроблены ў 1920-х гадах. І на другім здымку — Васіль Захарка ў Коўне.

— Я ведаю гэтыя здымкі. Яны друкаваліся ў часопісе «Спадчына» ў 1994 годзе…

Пакуль мы гутарылі на вуліцы ў Дабрасельцах, да нас падыходзілі іншыя людзі — і сваякі Васіля Захаркі, і проста вяскоўцы, якія мелі прозвішча Захарка. Яны прасілі напісаць пра іх, пра тое, што многія з жанчын па 20–30 гадоў адпрацавалі даяркамі, свінаркамі ў калгасе, а з пенсіяй іх дзяржава падманвае. Напісаць пра тое, як працуе ў Дабрасельцах магазін, як лечаць старых людзей у бальніцах і г.д. Пытанняў і праблем у вяскоўцаў шмат…

Калі я развітваўся з Захаркамі з Дабрасельцаў, спадарыні Вера і Валянціна сказалі, што, магчыма, яны не дажывуць да таго часу, калі іх сваяку Васілю Захарку паставяць у Зэльве помнік. Я запэўніў іх, што дажывуць, і што падчас адкрыцця помніка, яны выступяць са шчырай прадмовай. Вяскоўцы падзякавалі за памяць і запрасілі часцей бываць на радзіме прэзідэнта БНР Васіля Захаркі, якому 1 красавіка спаўняецца 135 гадоў з дня нараджэння.

КРУГЛЫ СТОЛ

# ГІСТОРЫЯ БНР — ГЭТА НЕ МІФ

Марат ГАРАВЫ

**Атлантыда Беларускай Народнай Рэспублікі пачала вяртацца беларусам толькі 25 гадоў таму, заявіў 16 сакавіка ў Мінску на круглым стале, прысвечаным 94-й гадавіне абвяшчэння БНР, кандыдат гістарычных навук Аляксей Кароль.**




Разам з тэмай сталінскіх рэпрэсій праблематыка гісторыі БНР мяняла свядомасць грамадства да дэмакратычных перамен. «Але цягам апошніх 18 гадоў тэматыка БНР зноў апушчана на дно гістарычнай памяці. І хаця няма афіцыйнай забароны на вывучэнне гэтай праблематыкі і публікацыі даследаванняў па ёй, тэма гісторыі БНР прыглушаецца і з'яўляецца непажаданай, а яе гістарычны досвед не знаходзіцца ва ўжытку. Беларускія ўлады не зацікаўленыя ў аднаўленні гістарычнай праўды пра БНР. Вось чаму перад навукоўцамі стаіць задача папулярызацыі гісторыі стварэння, дзейнасці і значэння БНР», — сказаў Кароль.

Для таго, каб нагадваць пра гэтую падзею, у краіне існуе даволі значная тэрыторыя вольнага слова, якая ўключае больш за 360 тысяч карыстальнікаў незалежных сайтаў і чытачоў каля 150 тысяч экзэмпляраў незалежных друкаваных СМІ.

Гісторыя БНР не з'яўляецца міфам ці добрай марай. БНР існавала як дзяржава, якую ў 1919–1920 гадах дэ-юрэ або дэфакта прызналі Германія, Латвія. Літва, Эстонія, Чэхаславакія, Балгарыя, Фінляндыя і Турцыя, дзе працавалі беларускія дыпламатычныя і вайскова-дыпламатычныя місіі, консульствы і прадстаўніцтвы. Былі спробы стварэння пэўных інстытуцый, у тым ліку войска, мелася свая дзяржаўная сімволіка і быў сход гістарычных абставін, які не дазволіў Беларусі ўсталявацца як незалежнай дзяржаве.

Яшчэ ў XIX стагоддзі прафесары Віленскага ўніверсітэта Міхаіл Бабroom Бабpoўскі і Ігнат Даніловіч, што стаялі на пачатку беларускага нацыянальнага адраджэння, упершыню распрацавалі нацыянальную ідэю, якая грунтавалася на каштоўнасцях беларускай мовы і культуры, ідэалогіі уніяцтва, суверэнітэце і незалежнасці.

«Дзеячы БНР ведалі пра гэтыя і пазнейшыя напрацоўкі нацыянальнай ідэі і імкнуліся іх рэалізаваць. А без БНР бальшавікі ніколі не пайшлі б на абвяшчэнне БССР, якая стала палітычнай і дзяржаўнай асновай для абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь», — падкрэсліў гісторык. Перадача Радай БНР сваіх паўнамоцтваў ураду Рэспублікі Беларусь звязка ў адзін ланцуг усе этапы гістарычнай дзяржаўнасці краіны, пачынаючы ад 25 сакавіка 1918 года.

Праваслаўны святар айцец Леанід Акаловіч звярнуў увагу на тое, што ўрад БНР надаў беларускай мове статус дзяржаўнай і вызначыў этнаграфічныя межы беларусаў, спрыяў развіццю нацыянальнай культуры і адукацыі, адраджэнню Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Ён адзначыў, што «абвяшчэнне БНР натхняе нас і сёння, бо Беларуская Народная Рэспубліка — нашая выратавальніца, захавальніца нашай ідэнтычнасці, самастойнасці і незалежнасці». На ягонае меркаванне, урад БНР, у які ўваходзілі людзі розных станаў і веравызнанняў, з'яўляецца прыкладам гуртавання для сённяшніх дэмакратычных сілаў Беларусі.

Паводле слоў мастака і грамадскага дзеяча Міколы Купавы, гадавіна абвяшчэння БНР з'яўляецца самым вялікім нацыянальным святам беларусаў. Ён нагадаў, што ў 1993 годзе 75-годдзе БНР адзначалася на высокім дзяржаўным узроўні з удзелам першай асобы незалежнай Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча і старшыні Рады БНР Язэпа Сажыча. «Дзяржаўныя сімвалы БНР — герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг сталі дзяржаўнымі сімваламі незалежнай Беларусі. Больш за 20 гадоў таму доктар гістарычных навук Міхась Ткачоў распавядаў, што ў архівах Германіі захоўваецца дакумент, які сведчыць — полацкі князь Валодша яшчэ пры канцы XII — на пачатку XIII стагоддзя вадзіў на немцаў дружыну пад бел-чырвона-белым сцягам. А ў Нацыянальным мастацкім музеі экспануецца карціна рускага мастака, акадэміка жывапісу Юлія Клевера, напісаная ў 1901 годзе. На ёй таксама лунае бел-чырвонабелы сцяг», — сказаў Купава.

Такім чынам, паводле яго слоў, гісторыя ўзнікнення гэтага нацыянальнага сімвала беларусаў яшчэ не да канца вывучаная. На думку Купавы, недастаткова выкарыстоўваецца на міжнароднай арэне магчымасці сённяшняй Рады БНР як цалкам легітымнага органа. Паводле яго слоў, неабходна стварэць грамадскі арганізацыйны камітэт з удзелам прадстаўнікоў краін-суседзяў па падрыхтоўцы святкавання 95-й гадавіны абвяшчэння БНР.

Мастак і грамадскі дзеяч Аляксей Марачкін адзначыў, што яму пашчасціла ўскосна далучыцца да святых імёнаў айцоў БНР — Зоські Верас, Лявона Луцкевіча — бацькі Антона Луцкевіча, Юльяна Сергіевіча і Ларысы Геніюш. Марачкін запрасіў на выставу, прысвечаную 94-й гадавіне БНР, якая адкрылася 21 сакавіка ў сталічнай штабкватэры Партыі БНФ па вуліцы Чарнышэўскага, 3.

СПРАВА

# СВАІХ НЕ ЗДАЮЦЬ

Вольга ХВОІН

**У рэдакцыю «НЧ» звярнуўся Андрэй Мініч, супрацоўнік праваахоўных органаў — ад лістапада 2008 года ён спрабуе прыцягнуць да адказнасці дактароў Жодзінскай цэнтральнай гарадской бальніцы за смерць сваёй маці.**



Пасля некалькіх гадоў узаемадзеяння з судамі, пракуратурай, следчымі органамі Мініч вельмі крытычна ставіцца да іх працы і жадання аб'ектыўна разбірацца ў сітуацыі. Андрэй ужо звяртаўся ў дзяржаўную прэсу, артыкулы пра яго бяду таксама публікавалі «Народная воля», «Барысаўскія навіны» і «На страже». Мініч хоча, каб як мага больш людзей даведаліся пра яго выпадак. Але найперш ён хоча, каб «выконваўся адзін з галоўных прынцыпаў юрыспрудэнцыі — прынцып няўхільнасці пакарання».

***

У ліпені 2007 года маці Андрэя Рэгіна Антонаўна Мініч памерла ў рэанімацыйным аддзяленні Жодзінскай гарадской бальніцы. Дактары сказалі, што прычынай смерці стаў рак нявыяўленай формы, але ў пасведчанні аб смерці ў графе, дзе пазначаецца прычына, быў прочырк.

У тым жа 2007 годзе Рэгіну Мініч па накіраванню ўчастковага тэрапеўта шпіталізавалі з жоўцекаменнай хваробай, назіралася яна ў гастраэнтэралагічным аддзяленні Жодзінскай гарадской бальніцы. Выпісалі жанчыну адтуль з некаторым паляпшэннем здароўя. Але праз два тыдні яна зноў злегла: з'явіліся моцныя галаўныя болі, болі ў вобласці сэрца. Сын неадназначна выклікаў хуткую, аднак прыкмет інфаркту міякарда лекары не знаходзілі. У выніку 13 ліпеня 2007 года спадарыню Рэгіну ў перадінфарктным стане шпіталізавалі ў тую ж гарадскую бальніцу. 16 ліпеня жанчына памерла.

У бальніцы медыкі паказалі сыну здымак, на якім бачны ацёк лёгкіх, і выказалі здагадку: анкалогія або сухоты. Але дакладнага дыягназу так і не паставілі.

Андрэй Мініч перакананы: калі б была своечасовая дыягностыка, яго маці магла б пражыць яшчэ не адзін год. Андрэй распавядае, што яшчэ ў кастрычніка 2007 года начальнік упраўлення аховы здароўя Мінаблвыканкама Ліпніцкі тлумачыў, што ўрачы сутыкнуліся з вельмі рэдкім відам раку — бронхаальвеалярным. Ён сустракаецца ў 2–4 працэнтах выпадкаў усіх відаў анкалогіі лёгкіх і, як правіла, клінічна не праяўляецца да моманту, калі адбываецца непасрэдна прарастанне ў вісцаральная плеўры або грудную клетку. За халатнае стаўленне да дыягностыкі захворвання дактароў пакаралі толькі ў дысцыплінарным парадку.

Андрэй падаў заяву ў ГАУС Жодзіна 15 красавіка 2008 года. Нарэшце 28 лістапада 2008 года была заведзеная справа па прыкмеце злачынства паводле ч. 2 артыкула 162 Крымінальнага кодэкса Беларусі (неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў медыцынскім работнікам, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць пацыента; караецца абмежаваннем волі на тэрмін да пяці гадоў або пазбаўленнем волі на той жа тэрмін з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю або без пазбаўлення).

І ад гэтага моманту пачынаецца доўгае бадзянне па інстанцыях. Цікава, што пра бесперспектыўнасць справы ўпартага Мініча папярэджвалі на самым пачатку.

— Спачатку справу завялі ў Жодзіна, а летам 2009 года перадалі ў Следчае ўпраўленне (СУ) Мінаблвыканкама. Справу прымаў старшы следчы па асабліва важных справах СУ Мінаблвыканкама, падпалкоўнік міліцыі Канцавы А. У. Ход расследавання кантраляваў намеснік начальніка СУ Мінаблвыканкама падпалкоўнік Буткоўскі С. Л., — распавядае Андрэй Мініч. — Папярэдняе расследаванне ішло праз пень-калоду, чаму так — мне не вядома. Шмат разоў выносіліся пастановы спыніць папярэдняе расследаванне. Але пасля маіх скаргаў у Генпракуратуру і пракуратуру Мінскай вобласці гэтыя пастановы адмяняліся як неабгрунтаваныя. Справа трымалася на плыву толькі дзякуючы маім юрыдычным ведам. Супрацоўнікі міліцыі самастойна не шукалі крыніцы доказаў, як таго патрабуе Крымінальна-працэсуальны кодэкс, а займалі чакальную пазіцыю.

Зборам доказаў займаўся непасрэдна Мініч. Па яго словах, Буткоўскі дапытваў пазыўніка чатыры гадзіны, а Канцавы дапытваў падазраваных урачоў 15–25 хвілін.

У 2011 годзе справа налічвала ўжо 9 тамоў. Было 9 судова-медыцынскіх экспертызаў, якія ўстанавілі шматлікія службовыя парушэнні падазраваных па крымінальнай справе супрацоўнікаў жодзінскай паліклінікі: тэрапеўта Ягоравай І. М. і рэнтгенолага Пціцынай С. У. Апошняя была звольненая з медустановы ў 2008 годзе — лекар ужо была на пенсіі, і з ёй не працягнулі кантракт. Па хадайніцтву Андрэя была праведзеная судова-медыцынская экспертыза імунна-гісталагічнага аналізу тканак трупа Мініч Рэгіны Антонаўны. І даследаванне не выявіла злаякасных клетак, метастазаў, хаця і быў пастаўлены дыягназ «анкапаталогія».

— Гэтыя супярэчнасці падштурхнулі мяне падаць скаргу ў Генпракуратуру ад імя пацярпелага аб мэтазгоднасці правесці незалежную судова-медыцынскую экспертызу на тэрыторыі Расіі. Хадайніцтва пасля скаргаў у розныя інстанцыі задаволілі, — распавядае пра далейшае развіццё падзей сын памерлай жанчыны. — Матэрыялы для экспертызы адправілі ў Маскву. І эксперты з Масквы ў тэлефоннай размове паведамілі, што знаходзяць падставы гаварыць пра віну жодзінскіх дактароў, і ў поўным аб'ёме падтрымліваюць абвінавачванне. Я даведаўся пра гэта ад старэйшага следчага па асабліва важных справах упраўлення папярэдняга расследавання Мінаблвыканкама падпалкоўніка Канцавога. Аднак праз некаторы час пракуратура Мінскай вобласці ўнесла пратэст на правядзенне экспертызы ў Маскве з прычыны яе немэтазгоднасці. Хачу заўважыць, гэта адбылося па ўказанню начальніка папярэдняга расследавання МУС генерал-маёра Гурэева. Судова-медыцынская экспертыза была сарваная, і на практыцы не быў выкананы прынцып няўхільнасці пакарання.

Потым пазоўнік даведаўся, што на прыём да міністра ўнутраных спраў Кулішова прыходзіў муж падазраванай Ягоравай, якая працуе ў жодзінскай паліклініцы хірургам. Андрэй Мініч перакананы, што гэтая сустрэча магла паўплываць на рашэнне адкліканць экспертызу з Масквы.

16 чэрвеня 2011 года была вынесеная пастанова № 08016070744 спыніць крымінальную справу і папярэдняе расследаванне па гэтай справе ў адносінах да Ягоравай І. Н., Пціцынай С. В. па частцы 2, артыкулу 162 Крымінальнага кодэкса з прычыны адсутнасці ў іх дзеяннях складу злачынства.

Андрэй падкрэслівае, што «з дадзенай пастановай катэгарычна не згодны». Ён абскардзіў яе ў Фрунзенскім судзе Мінска. Справу разглядала суддзя Комар В. К. Андрэй звяртае ўвагу, што ў часе разгляду справы суддзя двойчы парушыла патрабаванне пункта 13 пастановы 14 пленума Вярхоўнага суда Беларусі ад 23.12.1999 года (вяла пасяджэнне без судзейскай манты). На думку істца, гэта гаворыць пра яе халатны падыход да справы. Аналагічныя прэтэнзіі былі і да старэйшага памочніка пракурора Шэлемецевай С. А. (яна парушыла арт. 30 Кодэкса гонару пракурорскага работніка РБ), і праверку па гэтаму факту нават праводзіла пракуратура, а з усімі пракурорскімі работнікамі Фрунзенскага раёна Мінска праводзілі нараду, дзе і абмяркоўваліся паводзіны спадарыні Шэлемецевай. Але галоўная праблема, канешне ж, не ў знешнім выглядзе служак Феміды, а ў іх падыходзе да сваёй працы.

— Яны не прынялі да ўвагі мае довады аб вінаватасці ўрачоў, аб'ектыўна іх не праверылі і не абверглі! — абураецца Андрэй Мініч. — У крымінальнай справе многа медыцынскай інфармацыі, што якраз сведчыць пра вінаватасць урачоў. Я абскардзіў пастанову Комар старшыні мінскага гарадскога суда, але яе пакінулі без задавальнення. Потым была скарга ў Вярхоўны суд на імя старшыні суда Сукалы. Адказ пакуль не прыйшоў. З усіх гэтых падзей я зрабіў выснову, што суд і пракуратура ў названых асобах абсалютызавалі ранейшыя экспертныя заключэнні і не хацелі бачыць яўныя і схаваныя недахопы ў заключэннях экспертаў.

Андрэй Мініч распавядае, што, як толькі ён напісаў заяву аб халатнасці дактароў, яго папярэджвалі — справа гіблая. Пра гэта гаварыў начальнік следчага аддзела папярэдняга расследавання Жодзінскага ГАУС маёр міліцыі Папроцкі У. М. Андрэй Мініч гаворыць, што па віне гэтага афіцэра міліцыі заява разглядалася 7 месяцаў і 13 дзён. Дзеянні гэтага супрацоўніка, дарэчы, пасля разглядалі на пасяджэнні таварыскага суда Жодзінскага ГАУС. «Ён казаў мне, што ўрачы сваіх не здаюць, і вельмі малая верагоднасць, што эксперты падрыхтуюць на іх абвінаваўчае заключэнне, — кажа сын памерлай жанчыны. — Я хачу, каб дактары панеслі заслужаную кару за сваю халатнасць і сплацілі мне маральную і матэрыяльную шкоды».

**Андрэй Мініч гатовы ў адстойванні сваёй пазіцыі дайсці і да міжнародных інстанцый, калі ўнутры краіны нікому няма справы да сумленнасці і адказнасці медыкаў**

Спадар Андрэй на заканчэнне размовы гаворыць, што з нагоды вось такіх сумных абставінаў пазнаёміўся з судова-прававым бясчынствам, якое творыцца ў Фрунзенскім судзе Мінска. Дарэчы, мужчына гатовы ў адстойванні сваёй пазіцыі дайсці і да міжнародных інстанцый, калі ўнутры краіны нікому няма справы да сумленнасці і адказнасці медыкаў.

Інфармацыя пра падобныя выпадкі аб халатнасці ўрачоў рэгулярна трапляецца на вочы. Штогод колькасць скаргаў у Міністэрства аховы здароўя павялічваецца. І складае штогод больш за 560. Колькасць судовых экспертыз, прызначаных праваахоўнымі органамі па справах аб неналежным аказанні медпамогі, штогод узрастае на 15–20 працэнтаў.

Чаму так адбываецца? Наўрад ці пацыенты сталі больш нахабнымі ці больш смяротнымі. Насамрэч, не праблема пачуць гісторыі пра тое, як чалавек колькі гадзін ляжаў у прыёмным пакоі на каталцы і нікому не быў патрэбны, як атрымаў інфекцыю ў часе аперацыі ці сурвэтку «на памяць» у арганізме ад хірурга, як за ўвагу ці лепшыя ўмовы знаходжання ў стацыянары носяць хабары. Медыцына ў Беларусі сапраўды небагатая. Але сталася так, што разам з заробкамі і прэстыжам упаў узровень адказнасці, сумленнасці медыкаў. Знакамітая клятва Гіпакрата хіба што ператварылася ў пусты крылаты выраз.

У 2010 годзе ў арганізацыях аховы здароўя Беларусі не хапала каля 4,5 тысячы лекараў. Годам раней патрэба ў лекарах ацэньвалася ў 5,5 тысячы чалавек, а пік недахопу медыцынскіх кадраў прыйшоўся на 2008 год. Галоўная прычына дэфіцыту працоўных рук — цякучасць кадраў. Штогод з арганізацый Міністэрства аховы здароўя звальняецца больш за тры тысячы чалавек. Столькі беларускія медыцынскія ВНУ нават не набіраюць. І можна колькі заўгодна наракаць на фінансавыя праблемы, недахоп кадраў, аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны, але ўрэшце ніхто не прымушае чалавека працаваць там, дзе ад яго залежыць жыццё іншых, дзе замест ратавальніка ён у выніку прымярае ролю абыякавага назіральніка.

***

*Суддзя Комар В. К. знаходзіцца ў «чорным спісе» неўязных у ЕС. Яна ўжо вядома нашым чытачам па тых прысудах, што выносіла прадстаўнікам апазіцыі. Гэтая ж суддзя разглядала справу Мініча. Яна не прыняла да ўвагі довадаў і доказаў Андрэя і спыніла крымінальную справу. А ці магло быць інакш?*

*Суддзя, які хаця б аднойчы дамовіўся з законам, будзе і потым выціраць аб яго ногі. Пракурор, які хаця б аднойчы выканаў загад, заплюшчыўшы вочы на закон, не стане каяцца і сыходзіць з прафесіі. Міліцыянер, які хаця б аднойчы схлусіў перад Фемідай, будзе і далей проста «выконваць загад». Гэта сістэма. Сістэма, пры якой чалавек, мараль, закон не маюць ніякага значэння. Сістэма, якая перакруціць любога, хто стане на яе шляху. Таму і змагацца трэба з сістэмай. Толькі дэмакратычная дзяржава можа гарантаваць асобе выкананне яе правоў і перавагу закона. І тады будзе выконвацца не толькі прынцып няўхільнасці пакарання, але і прынцып прэзумпцыі невінаватасці.*

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ TV

## 26 САКАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Адмысловы рэпартаж АТН.
**11.00** Прэм'ера. Крымінальная меладрама «Надзея» (Расія). 1-я серыя.
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.15** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Эпоха. Падзеі і людзі.
**16.10** Серыял «За ўсё табе дзякую-3».
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Арэна.
**18.45, 00.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**19.35** «Калыханка».
**19.50** Крымінальная меладрама «Надзея» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.45** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**22.55** Серыял «Вар'яты-3» (ЗША).
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Серыял «За ўсё табе дзякую-3» (Украіна).

---

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Правы на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Прэм'ера «Ірына Антонава. «Я даўно іду па прамой».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Ты ў мяне адна».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.10** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адчынены фармат».
**22.05** Прэм'ера. «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**23.10** Прэм'ера. Фільм «Кароткі курс шчаслівага жыцця».
**00.10** «Асяроддзе пасялення».
**01.05** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Гарачы лёд».
**13.05** «Далёкія сваякі».
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Вялікі горад».
**15.15** «Зорны рынг».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Хованкі». Расія 2005 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Пякельная кухня».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Навіны надвор'я.
**10.30** Школа рамонту.
**11.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**12.45** Кінаспробы.
**13.15** Дакументальны фільм «Шчасце».
**13.40** Камедыя «Як я быў вундэркіндам».
**16.00** Нянудны глобус.
**16.25** Пад грыфам «Вядомыя».
**17.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія-Украіна).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Гісторыка-прыгодніцкі фільм «Прынцэса варвараў» (ЗША-Вялікабрытанія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.35** Авертайм.
**23.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**00.00** Спартовая драма «Хвацкія хлопцы».

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**05.20** Праграма «Даведнік».
**06.05** Мультсерыял «Легенда аб спячай прыгажуні».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Выніковая праграма «Разам».
**10.05, 11.05** Мастацкі фільм «Прыехалі на конкурс кухара…».
**12.20** Дак. фільм «Вайна і мір. Эвакуацыя».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Праграма «Саюзнікі».
**19.20** Праграма «Усюды жыццё».
**19.50** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**20.30** Праграма «Беларусь сёння».
**21.30** Праграма «Свет спорту».
**22.05** Дак. фільм «Вайна і мір. Эвакуацыя».
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05, 01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Саюзнікі».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Свет спорту».

### Discovery CHANNEL

**08.00** Пятая перадача.
**10.10** Разбуральнікі легенд.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**18.25** Разбуральнікі легенд.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**21.40** З чаго гэта зроблена?
**22.05, 02.40** Discovery Channel выратаваў мне жыццё.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**04.35** Як гэта працуе.
**05.00** Зброя будучыні.

### EUROSPORT

**01.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі - 7-ы этап.
**09.30, 14.30** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Дзень 1.
**12.30** Кёрлінг: Чэмпіянат Міры. Жанчыны. Канада – Фінал.
**17.30** Футбол: Еўрагалы.
**18.30** Тэніс: Турнір WTA. Маямі - 1/8 фіналу.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** Зона «Свабоды».
**08.10, 13.55** «Далёка нам яшчэ да БНР», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**08.35** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**08.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.00** «Час гонару», серыял.
**09.45** «Па Транссібе» дак фільм, 2007 г., Германія: 2 серыя.
**10.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.40** Эксперт.
**11.10** Фільматэка майстроў: «Італьянец», маст. фільм, 2005 г., Расія.
**13.00** Зона «Свабоды».
**13.30** «Дзень Волі», дак. фільм, 2008 г. Беларусь.
**14.25** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**14.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**14.50** «Час гонару», серыял: ? серыя.
**15.35** Эксперт.
**16.05** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**16.15** «Па Транссібе» дак фільм, 2007 г., Германія: 2 серыя.
**17.00** «Мой родны горад», серыял.
**17.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.40** Навігатар.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Зона «Свабоды».
**18.40** Вагон.
**18.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Еўропа сёння.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**20.30** «Тэра постсаветыка. Фэмэн», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**21.50** Фільматэка майстроў: «Італьянец», маст. фільм, 2005 г., Расія.
**23.35** Аб'ектыў.
**00.00** Гарачы каментар.

## 27 САКАВІКА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія). 1-я серыя.
**10.00** Арэна.
**10.30** Культурныя людзі.
**11.05** Крымінальная меладрама «Надзея» (Расія). 2-я серыя.
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Эпоха. Падзеі і людзі.
**16.10** Дэтэктыўная меладрама «За ўсё табе дзякую-3» (Украіна). Заключная серыя.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.05** Зона Х.
**19.35** Калыханка.
**19.50** Крымінальная меладрама «Надзея» (Расія). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія). 1-я серыя.
**22.55** Драматычны серыял «Вар'яты-3».
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Дэтэктыўная меладрама «За ўсё табе дзякую-3» (Украіна). Заключная серыя.

---

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.05** «Правы на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Яўген Лявонаў. Страх адзіноты».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**22.10** Прэм'ера. «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**23.15** Прэм'ера. Фільм «Кароткі курс шчаслівага жыцця».
**00.15** «Несакрэтныя матэрыялы».
**00.45** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Хованкі». Расія 2005 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** Фільм «Рай». ЗША, Германія, Францыя, Вялікабрытанія, Італія, 2002 г.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**21.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Небяспечны месяц».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** «Інструктар». Серыял.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія-Украіна).
**11.00** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**12.45** Авертайм.
**13.20** Гісторыка-прыгодніцкі фільм «Прынцэса варвараў» (ЗША-Вялікабрытанія).
**15.05** Мультфільм.
**15.30** Нянудны глобус.
**15.55** Цела чалавека.
**16.30** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія- Украіна).
**17.25** Рэгіянальная праграма.
**18.25** Хакей. Адкрыты чэмпіянат Беларусі. Экстраліга. Фінал. Прамая трансляцыя.
**20.50** Тэлебарометр.
**20.55** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Прамая трансляцыя.
**23.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Простая мова».
**05.20** Дак. серыял «Дом з гісторыяй».
**06.05** Мультсерыял «Легенда аб спячай прыгажуні».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05, 08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Агульны рынак».
**09.25** Праграма «Агульны інтарэс».
**10.05** Мастацкі фільм «13 даручэнняў».
**11.05** Мастацкі фільм «13 даручэнняў» (Працяг).
**12.20** Дак. фільм «Вайна і мір. Эвакуацыя».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Таемная варта. Нябачнікі ў горадзе».
**20.45** Праграма «Простая мова».
**21.25** Праграма «Дыяспары».
**22.05** Дак. фільм «Вайна і мір. Эвакуацыя».
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Усюды жыццё».
**03.30** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Дыяспары».

### Discovery CHANNEL

**08.00** Пятая перадача.
**10.10** Разбуральнікі легенд.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная праца.
**18.25** Разбуральнікі легенд.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**21.40** З чаго гэта зроблена?
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**04.35** Як гэта працуе.
**05.00** Зброя будучыні.

### EUROSPORT

**01.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**01.30** Футбол: Еўрагалы.
**09.30** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Дзень 2.
**12.30** Футбол: Еўрагалы.
**13.30** Конны спорт: Скачкі. Агляд тыдня.
**13.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі - 7-ы этап.
**14.30** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Дзень 2.
**17.30, 18.30** Тэніс: Турнір WTA. Маямі - 1/8 фіналу.
**20.00** Тэніс: Турнір WTA. Маямі - 1/4 фіналу.
**21.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**22.00** Бокс.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Персона нон-грата», маст. фільм, 2005 г., Польшча–Расія–Італія.
**09.30** «Мой родны горад», серыял: 33 серыя.
**09.50** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.15** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.40** «Тэра постсаветыка. Фэмэн», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**11.05** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.40** «Ранча», серыял: 42 серыя.
**12.30** «Мой родны горад», серыял: 33 серыя.
**12.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.25** МакраФон: «Сон-трава», канцэрт гурта «Троіца»: ч. 1.
**13.50** «Тэра постсаветыка. Фэмэн», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**14.20** Маю права (юрыдычная праграма).
**14.40** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**15.00** «Персона нон-грата», маст. фільм, 2005 г., Польшча–Расія–Італія.
**17.00** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 11 серыя.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавўчая праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**18.40** «7 разоў Масква», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Рэпартэр.
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Сальда (эканамічная праграма).
**21.40** «Ратаўнікі», серыял: 13 серыя.
**22.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**22.55** Жаўтуха (сатырычная праграма).
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** Гарачы каментар.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 28 САКАВІКА, СЕРАДА

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія). 2-я серыя.
**10.00** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Каробка перадач.
**11.05** Крымінальная меладрама «Надзея» (Расія). 3-я серыя.
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Эпоха. Падзеі і людзі.
**16.15** Дэтэктыўная камедыя «Пярсцёнак спадчынніка дынасты» (Расія). 1-я серыя.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Зямельнае пытанне.
**18.45, 00.10** Зона Х.
**19.35** Калыханка.
**19.50** Крымінальная меладрама «Надзея» (Расія). 3-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія). 2-я серыя.
**23.00** Драматычны серыял «Вар'яты-3» (ЗША). Заключная серыя.
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Эпічнае фэнтэзі «Нібелунгі» (Германія-ЗША). 1-я серыя.

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**22.10** Прэм'ера. «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**23.15** Прэм'ера. Фільм «Кароткі курс шчаслівага жыцця».
**00.15** «Наша Беларашa».
**00.50** Начныя навіны.

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мiншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.45** «Інструктар». Серыял.
**15.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мiншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Прэм'ера. «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**21.30** «Доктар Тырса». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчане».
**23.35** «Дабро пажаліцца».
**00.00** «Інструктар». Серыял.
**00.55** «Дзіўная справа».

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія-Украіна).
**11.00** Цела чалавека.
**11.35** Наперад у мінулае.
**12.10** «Аб чым баліць душа». Дак. фільм.
**13.15** Камедыя «Дзіўныя прыгоды Дзяніса Караблёва» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**14.20** Бухта капітанаў.
**15.00** Мультфільм.
**15.30** Нянудны глобус.
**15.55** Ясі і худзей.
**16.30** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія-Украіна).
**17.25** Рэгіянальная праграма.
**18.25** Хакей. Адкрыты чэмпіянат Беларусі. Экстраліга. Фінал. Прамая трансляцыя.
**20.45** Тэлебарометр.
**20.50** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Прамая трансляцыя.
**23.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**05.20** Праграма «На шашлыкі».
**06.05** Мультсерыял «Легенда аб спячай прыгажуні».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**09.25** Праграма «Даведнік».
**10.05** Мастацкі фільм «Час чырвоных яблыкаў».
**11.05** Мастацкі фільм «Час чырвоных яблыкаў» (Працяг).
**12.20** Дак. фільм «Вайна і мір. Эвакуацыя».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Таемная варта. Нябачнікі ў горадзе».
**20.45** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**21.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**22.05** Дак. фільм «Вайна і мір. Эвакуацыя».
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05, 01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».

### Discovery Channel

**08.00** Пятая перадача.
**08.25** Брудная праца.
**10.10** Разбуральнікі легенд.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**14.45** Круты цюнінг 2008.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная праца.
**18.25** Разбуральнікі легенд.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**21.40** З чаго гэта зроблена?
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**04.35** Як гэта працуе.
**05.00** Зброя будучыні.

### Eurosport

**00.00** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**00.30** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Дзень 2.
**01.30, 12.30, 19.15, 20.00** Тэніс: Турнір WTA. Маямі - 1/4 фіналу.
**09.35, 14.30, 23.30** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Дзень 3.
**17.30** Фігурнае катанне: Чэмпіянат свету. Ніца. Кароткая праграма. Пары.
**19.00** Усе віды спорту.
**21.45** Фігурнае катанне: Чэмпіянат свету. Ніца.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 11 серыя.
**08.25** Два на два (тэледыскусія).
**08.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.55** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.50** Сальда (эканамічная праграма).
**10.05** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**10.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.50** МакраФон: «Рок-карона: запісы 1997–1999 гг.»: ч. 1.
**11.50** «Ранча», серыял: 43 серыя.
**12.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.05** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 11 серыя.
**13.55** Два на два (тэледыскусія).
**14.25** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.50** Рэпартэр.
**15.15** Сальда (эканамічная праграма).
**15.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**15.40** Эксперт.
**16.05** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**16.20** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**16.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.00** «Машына зменаў», серыял: 9 серыя.
**17.25** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**17.40** «ПНР дэ люкс», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Пішчалаўскі замак», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**18.40** Вагон.
**18.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Сальда (эканамічная праграма).
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня».
**20.35** Навігатар.
**20.50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 9 серыя.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Беларуская Амерыка», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**21.45** «Агнём і мячом», серыял: 3 серыя.
**22.35** Два на два (тэледыскусія).
**23.00** Аб'ектыў.
**23.25** Гарачы каментар.

## 29 САКАВІКА, ЧАЦВЕР

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія). 3-я серыя.
**10.00** Зямельнае пытанне.
**10.30** Да цешчы на бліны.
**11.05** Крымінальная меладрама «Надзея» (Расія). 4-я серыя.
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Эпоха. Падзеі і людзі.
**16.15** Дэтэктыўная камедыя «Пярсцёнак спадчынніка дынасты». 2-я серыя, закл.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Сфера інтэрасаў.
**18.45, 00.10** Зона Х.
**19.35** Калыханка.
**19.50** Крымінальная меладрама «Надзея» (Расія). 4-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія). 3-я серыя.
**23.00** Драматычны серыял «Вар'яты-4» (ЗША). 1-я серыя.
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Эпічнае фэнтэзі «Нібелунгі» (Германія-ЗША). 2-я серыя.

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**22.10** Прэм'ера. «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**23.15** Прэм'ера АНТ: «Твая Тэрыторыя».
**00.15** «На ноч глядзячы».
**01.05** Начныя навіны.

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мiншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**09.15** «Далёкія сваякі».
**09.30** «Дабро пажаліцца».
**09.55** «Прыгоды дылетанта».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Інструктар». Серыял.
**15.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мiншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Прэм'ера. «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**21.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Праўда».
**23.40** «Аўтапанарама».
**00.00** «Інструктар». Серыял.
**00.50** «Яшчэ не вечар».

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія-Украіна).
**11.00** Страсці па культуры.
**11.40** Ясі і худзей.
**12.15** Вышэй за дах.
**13.05** Жансавет.
**13.40** Камедыя «Дзіўныя прыгоды Дзяніса Караблёва» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**14.50** Мультфільм.
**16.00** Нянудны глобус.
**16.25** Ясі і худзей.
**17.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія-Украіна).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Эксцэнтрычная камедыя «Каханне злое…» (Расія).
**20.20** Беларуская часіна.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Прамая трансляцыя.
**00.00** Час футболу.
**00.40** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд.

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Простая мова».
**05.20** Дак. фільм «Дом з гісторыяй».
**06.05** Мультсерыял «Легенда аб спячай прыгажуні».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05, 08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Простая мова».
**09.25** Праграма «Сардэчна запрашаем.
**10.05** Мастацкі фільм.
**11.05** Мастацкі фільм (Працяг).
**12.20** Дак. фільм «Вайна і мір. Эвакуацыя».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Таемная варта. Нябачнікі ў горадзе».
**20.45** Праграма «Простая мова».
**21.25** Праграма «Злачынства і пакаранне».
**22.05** Дак. фільм «Вайна і мір. Эвакуацыя».
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05, 01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Беларусь сёння».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Злачынства і пакаранне».

### Discovery Channel

**08.00** Пятая перадача.
**08.25** Брудная праца.
**10.10** Разбуральнікі легенд.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**14.45** Заезды.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная праца.
**18.25** Разбуральнікі легенд.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**21.40** З чаго гэта зроблена?
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**04.35** Як гэта працуе.
**05.00** Зброя будучыні.

### Eurosport

**01.00, 19.00** Тэніс: Турнір WTA. Маямі - 1/4 фіналу.
**09.30, 14.30, 23.15** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Дзень 4.
**12.30** Настольны тэніс: Камандны Чэмпіянат свету. Дортмунд.
**17.30** Фігурнае катанне: Чэмпіянат свету. Ніца. Жанчыны. Кароткая праграма.
**20.00** Тэніс: Турнір WTA. Маямі.
**21.45** Фігурнае катанне: Чэмпіянат свету. Ніца. Адвольны танец.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Агнём і мячом», серыял: 3 серыя.
**08.25** Сальда (эканамічная праграма).
**08.40** «Ратаўнікі», серыял: 13 серыя.
**09.30** «Машына зменаў», серыял: 9 серыя.
**10.00** Праект «Будучыня».
**10.25** Навігатар.
**10.40, 15.15** «ПНР дэ люкс», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**11.00** Два на два (тэледыскусія).
**11.25, 16.00** «Беларуская Амерыка», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**11.45, 16.30** «Пішчалаўскі замак», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**12.10** «Агнём і мячом», серыял: 3 серыя.
**13.05** «Ратаўнікі», серыял: 13 серыя.
**13.50** «Машына зменаў», серыял: 9 серыя.
**14.20** Праект «Будучыня».
**14.45** Сальда (эканамічная праграма).
**15.05** Навігатар.
**15.35** Два на два (тэледыскусія).
**16.20** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял.
**17.25** Вагон.
**17.30** Басанож па свеце.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Новы час», дак. фільм, Боснія і Герцагавіна.
**18.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Эксперт.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэпартэр.
**21.50** «Кім Чэн Ір: засакрэчаная біяграфія», дак. фільм, 2010 г., Японія–Францыя.
**22.45** «Палітыканы», серыял, 2007 г., Вялікабрытанія: 1 серыя.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

## 1 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**06.30** Рамантычная камедыя «Папялушка: версія старэйшай сястры» (Канада).
**08.00** Існасць.
**08.25** Ранішняя хваля.
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**10.10** Медычныя таямніцы.
**10.45** Культурныя людзі.
**11.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**11.35** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**12.00** Навіны.
**12.10** Камедыйны серыял «Сваты-4» (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.00** Навіны.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Камедыя «Сем нявест яфрэйтара Збруева» (СССР).
**17.30** Каробка перадач.
**18.10** Суперлато.
**19.00** Меладрама «Урокі танга» (Вялікабрытанія-Францыя).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Прыгодніцкі баявік «Місія невыканальная-3» (ЗША).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** Прэм'ера. «Смешарыкі. Пачатак».
**11.25** Пакуль усе дома.
**12.20** АНТ прадстаўляе: «Брэйн рынг».
**13.20** Дзень смеху.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Дзень смеху. Працяг.
**18.50** Канцэрт Алены Ваенгі.
**20.00** Контуры.
**21.05** АНТ прадстаўляе: VIII нацыянальны конкурс прыгажосці «Міс Беларусь 2012».
**23.20** «Хай кажуць».
**00.20** «Yesterday live».

### СТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-13». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.25** «Вялікі сняданак».
**11.05** Фільм «Браты Грым». ЗША-Вялікабрытанія-Чэхія, 2005 г.
**13.10** «Добры дзень, доктар».
**13.40** Фільм «Елкі-палкі!..». СССР, 1988 г.
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Сэрцаед». Францыя-Манака, 2010 г.
**22.40** Прэм'ера! «Пякельная кухня».
**23.55** Фільм «Мост». Германія, 2008 г.

### Беларусь 2

**07.05** Размова са святаром.
**07.15** Прыступкі Веры.
**07.30** Таямніца душы.
**08.00** Кожны мае права быць розным.
**08.25** Моладзевая камедыя «Пацалунак на поспех» (ЗША).
**10.20** Тэлебарометр.
**10.25** Школа рамонту.
**11.30** Вышэй за дах.
**12.05** Шоў «Інтуіцыя».
**13.10** Бухта капітанаў.
**13.55** «Смех з дастаўкай на дом». Гумарыстычная праграма.
**15.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прамая трансляцыя.
**17.25** Кінаспробы.
**17.55** Хакей. Адкрыты чэмпіянат Беларусі. Экстраліга. Фінал. Прамая трансляцыя.
**20.15** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**22.20** Спорт-кадр.
**23.00** Спартовая камедыя «Вышыбалы» (ЗША).
**00.35** Шоў «Інтуіцыя».

### Беларусь 3

**05.00** Дакументальны фільм «Цыганскі вальс».
**05.50** Праграма «Смачны свет».
**06.20** Мастацкі фільм «Хмурны Вангур».
**08.15** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** Праграма «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** Праграма «Эксперыментатары».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Ведаем рускую».
**10.40** Тэлесерыял «Эксперты».
**14.00** Праграма «Правілы жыцця».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток – шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Канцэрт.
**16.40** Тэлесерыял «Лятучы атрад».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял «Код Энігма».
**23.10** Праграма «Паўночнікі».
**23.40** Тэлесерыял «Эксперты».
**02.25** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**03.15** Мастацкі фільм «Хмурны Вангур».

### Discovery Channel

**08.00** Пятая перадача.
**08.25** З чаго гэта зроблена?
**08.50** Як гэта ўладкавана?
**11.05** Вокамгненныя катастрофы.
**11.35** Вокамгненныя катастрофы.
**12.00** Дзёрзкія праекты.
**12.55** Лесапавал на балотах.
**14.45** Смяротны ўлоў.
**19.20** Бяспека меж.
**19.50** Бяспека меж.
**21.10** Горш быць не магло.
**21.40** Горш быць не магло.
**00.50** Я не павінен быў выжыць!
**01.45** Страчаны рай.
**02.40** Бяспека меж.
**03.10** Бяспека меж.
**04.05** Я не павінен быў выжыць!

### Eurosport

**01.00** Настольны тэніс: Камандны Чэмпіянат свету. Дортмунд.
**09.30** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Фінал.
**12.30** Супербайк: Чэмпіянат свету. Італія - Суперпоул.
**13.00** Супербайк: Чэмпіянат свету. Італія – 1-я спроба.
**13.45** Веласпорт: Тур Фландрыі.
**14.15** Суперспорт: Чэмпіянат свету. Італія.
**15.15** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Валенсія - 3-і круг.
**16.15** Веласпорт: Тур Фландрыі.
**18.00** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Валенсія - 4 раўнд.
**19.00** Супербайк: Чэмпіянат свету. Італія – 2-я спроба.
**19.45** Аўта і Мотаспорт: часопіс.
**20.00** Фігурнае катанне: Чэмпіянат свету. Ніца. Паказальны выступ.
**21.45** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін – Фінал.

### Белсат tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 19 серыя.
**08.30** Калыханка для самых маленькіх.
**09.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**10.05** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**10.20** Сальда (эканамічная праграма).
**10.35** «Від з дзясятага паверху», 2011 г., Польшча.
**11.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.35** «Беларуская Амерыка», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**11.55** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.20** Калыханка для самых маленькіх.
**12.50** «Тэра постсаветыка. Фэмэн», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.15** «Піянеры зменаў. Аргентына», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**14.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.40** «Дзе ты, Украіна?», дак. фільм, 2008 г., Украіна.
**15.30** «Была ці не была?», камедыя, 2006 г., Румынія.
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Час гонару», серыял.
**18.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.25** Два на два (тэледыскусія).
**18.50** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял, 1995 г., Польшча: 1 серыя.
**19.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.35** Калыханка для самых маленькіх.
**19.50** Дакументальная гадзіна: «Дзіцячая гара», дак. фільм, 2008 г., Румынія–Германія.
**20.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.15** Фільматэка майстроў: «Найгалоўнейшы бос», камедыя, 2006 г., Данія.
**23.50** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**00.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.40** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11

почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______

почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

З новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл.: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Кассир Всего ______

ГЕАПАЛІТЫКА

# КАМУ ДАСТАНУЦЦА ФАЛЬКЛЕНДЫ?

Алег НОВІКАЎ

**Напярэдадні гадавіны брытанска-аргенцінскай вайны 1982 года за Фальклендскія (Мальвінскія) астравы ў Вялікабрытаніі ўсё гучней чуваць голас тых, хто выступае за перадачу архіпелага Аргенціне.**






Індыкатарам змены грамадскай думкі можа служыць гісторыя з Джорджам Уотэрсам, былым лідарам славутага рок-гурта «Pink Floyd». Некалькі гадоў таму падчас туру па Лацінскай Амерыцы журналісты спыталі музыку, што ён думае наконт праблемы прыналежнасці Фальклендаў. Тады ён ухіліўся ад адказу. Прыкладна месяц таму Уотэрса, які гастраляваў па Чылі, зноў пачалі даставаць фальклендскім пытаннем. На гэты раз без усякага палітэсу рокер заклікаў Лондан адмовіцца ад выспаў.

У вайне 1982 года паклалі жыццё 258 брытанскай вайскоўцаў. Яшчэ 700 вярнуліся параненымі. Тых, хто вярнуўся, сустрэлі як герояў. Вайна з Аргенцінай на доўгі час засталася ў памяці сучаснікаў як сапраўды народная вайна. Ідэю вайсковай кампаніі ўвесну 1982 года падтрымлівала 85 працэнтаў насельніцтва. «Мы ўсе фальклендцы», — пісала тады «Times». Самая масавая антываенная акцыя сабрала ў Вялікабрытаніі не больш за 7 тысяч чалавек. Увогуле, супраць вайны выступілі выключна трацкісты, левая фракцыя лейбарыстаў пад кіраўніцтвам Тоні Бена і Plaid Cymru — партыя ўэльскіх нацыяналістаў.

Палітычны мэйнстрым, уключаючы апазіцыянераў-лейбарыстаў, быў цалкам за вайну да пераможнага канца. Левыя прагаласавалі за адпраўку экспедыцыйнага корпусу, а адзін з лідараў прафсаюзаў нават заклікаў каралеўскую авіяцыю бамбіць Буэнас-Айрэс і іншыя прыморскія аргенцінскія гарады.

Але нават такая патрыятычная поза не дазволіла лейбарыстам змяніць трэнд. У вачах вуліцы з самага пачатку гэта была вайна, якую вяла Маргарэт Тэтчэр, і, адпаведна, яна атрымала ўсе дывідэнды з перамогі. Гэты феномен увайшоў у падручнікі гісторыі пад назвай «фальклендскі эфект». Літаральна за пару месяцаў вайсковых дзеянняў брытанцы забыліся пра ненавісную манетарную і непапулярную палітыку, якую праводзіў з 1979 года кабінет торы. У атмасферы пераможнай эйфарыі прайшлі наступныя парламенцкія выбары 1983 года, якія прынеслі кансерватарам сапраўдны трыумф.

Варта адзначыць, што вынікі галасавання 1983 года аказаліся вырашальнымі для ўсёй сусветнай гісторыі. Калі б даваенная тэндэнцыя захавалася, пераможцамі на тых выбарах аказаліся лейбарысты, якіх на той час узначальваў Майкл Фут. Спадар Фут у знешнепалітычных поглядах схіляўся да сепаратнага міру з Масквой, што магло значыць канец амбіцыям Рональда Рэйгана разам з Тэтчэр перамагчы Саветы ў «халоднай вайне».

І вось праз 30 гадоў культ Фальклендаў амаль знік. Нават жоўтая прэса, якая калісьці была рупарам джынгаізму (так называюць брытанскі шавінізм), амаль не ўзгадвае пра баталію 30-гадовай даўніны.

Таму ёсць шмат прычын. Папершае, зраз святкаваць гадавіну вайны — значыць падтрымаць цяперашні кансерватыўны ўрад Дэвіда Кэмерана і яго пакет рэформаў.

Па-другое, даўно схлынулі эмоцыі канца сакавіка 1982 года, калі ўся нацыя была шакаваная навіной пра акупацыю Фальклендаў і патрабавала рэваншу. Цяпер можна больш цвяроза прааналізаваць сітуацыю таго часу, што абавязкова штурхае да шэрагу пытанняў. Галоўнае пытанне: што за цікавую партыю гуляла Маргарэт Тэтчэр 30 гадоў таму?

Праўда, яшчэ падчас той вайны шмат хто з палітолагаў казаў пра супярэчнасць матывацыі яе ўчынкаў. Кіраўнік ураду шмат казала, што Брытанія змагаецца ў тым ліку супраць вайсковай хунты. У аналы гісторыі ўвайшла яе фраза: «I will never hand over our people to a bunch of fucking Fascists» (Я ніколі не дазволю, каб мой народ перайшоў пад уладу купкі е...ых фашыстаў»). Аднак ніводнага слова з вуснаў Тэтчэр не прагучала ў абарону 30 тысяч ахвяр аргенцінскай дыктатуры. Крытыка рэжыму ў Аргенціне не замінала Тэтчэр заўсёды падтрымліваць добрыя адносіны з Піначэтам.

Не зразумела і сама прычына канфлікту. Як высвятляецца зараз, Лондан на працягу 1970-х гадоў быў сам не супраць пазбавіцца ад тых астравоў. На днях аргенцінская газета «La Nation» апублікавала дакументы мясцовага МЗС. Адпаведна ім, у 1974 годзе Лондан і Буэнас-Айрэс амаль дасягнулі дамовы пра сумесны кантроль над Фальклендамі. Праект дамовы прадугледжваў, што над выспамі будуць лунаць як аргенцінскі, так і брытанскі сцягі, іспанская мова мусіла стаць афіцыйнай, тубыльцы атрымалі б падвойнае грамадзянства. Губернатар астравоў павінен быў прызначацца па чарзе. Толькі смерць прэзідэнта Перона ў тым жа годзе прыпыніла рэалізацыю плана. Дарэчы, ніхто тады не баяўся, што насельнікам астравоў, этнічным брытанцам, будзе кепска жыць у Аргенціне. У гэтай краіне шмат у тым ліку англамоўных камун, якія жывуць тут стагоддзямі, захоўваючы свае культурныя традыцыі.

А далей, калі верыць архівам, пачынаюцца ўвогуле цікавыя працэсы. У 1978 годзе вайсковая хунта, якая вырашае прыкрыцца патрыятычнымі лозунгамі, нечакана ўздымае пытанне прыналежнасці выспаў. У адказ прэм'ер-лейбарыст Джэймс Калаган дасылае ў рэгіён атамную субмарыну, і аргенцінцы супакойваюцца. Наступны прэм'ер Маргарэт Тэтчэр ў 1980 годзе выводзіць з Паўднёвай Атлантыкі вайсковы карабель «Endurance», які ахоўваў архіпелаг, што адразу абуджае экспансіяніцкія апетыты сябровў хунты. Такім быў пралог вайны.

Гэта, канешне, не значыць, што Вялікабрытанія ў 1982 годзе павінна была заплюшчыць вочы на выхадкі Буэнас-Айрэса. Фішка ў тым, што непасрэднага канфлікту можна было пазбегнуць дзякуючы арбітражу ААН і ЗША. Вядома, што Вашынгтон быў саюзнікам як Англіі, так і Аргенціны і мог знайсці кампрамісны варыянт. Аднак Жалезнай лэдзі была, здаецца, патрэбна вайна. Прычым вяла яе Англія далёка не па прынцыпах fair play. Сёння ўжо ў больш гуманістычным вымярэнні ўспрымаецца англічанамі трагедыя аргенцінскага крэйсера «Генерал Бельграна», які 2 мая патапіла англійская тарпеда. Калі ў Англіі даведаліся, што дрэдноут разам з 300 маракамі пайшоў на дно, на вуліцах пачалося стыхійнае свята. Цяпер усё больш звяртаецца ўвага на тое, што карабель, які быў атакаваны па асабістаму загаду Тэтчэр, знаходзіўся ў нейтральных водах.

Сорамна цяперашнім брытанцам і за некаторыя фрагменты антыаргенцінскай істэрыі 1982 года. Так, на славуты эдынбургскі фестываль 1982 года не пусцілі трупу са Швейцарыі з-за таго, што яе кіраўнік быў этнічным аргенцінцам. Прадзюсераў у Англіі ў тыя часы папярэдзілі, каб з рэпертуару музычных мерапрыемстваў былі выключаны кампазіцыі ў жанры танга. Славутую ВВС называлі 5-й калонай за тое, што медыя-карпарацыя ў час вайны заставалася верная прынцыпам аб'ектыўнай журналістыкі.

Нарэшце, сам кошт перамогі аказаўся занадта дарагім. Справа нават не ў тым, што захаванне Фальклендаў з-за наяўнасці там вайсковай базы каштуе брытанскай казне вельмі шмат. Некаторыя эканамісты нават падлічылі, што брытанскаму падаткаплатніку ў перспектыве было б танней аплаціць поўную эвакуацыю з архіпелагу на гістарычную радзіму не толькі ўсіх каланістаў, аднак і мясцовых пінгвінаў.

Праблема ў тым, што так званы «фальклендскі эфект» аказаў уплыў на культуру брытанскага палітыкуму. Пасля 1982 года сярод палітыкаў узнікла спакуса паўтарыць «фальклендскі эфект» — атрымаць электаральныя балы за кошт невялікай вайны. Лічыцца, што міф пра выбары 1983 года шмат у чым падштурхнуў Тоні Блэра на тое, каб разгарнуць непапулярную вайну ў Іраку, якая дасюль застаецца сапраўднай нацыянальнай траўмай.

На фоне такіх тэндэнцый у настроях брытанцаў будучыня архіпелагу ў Паўднёвай Атлантыцы выглядае туманна. Туманнасці дадае яшчэ адна праблема. Справа ў тым, што цяперашні кансерватыўны кабінет заўзята змагаецца супраць правядзення ў Шатландыі рэферэндуму пра незалежнасць, кампанія за які праходзіць пад лозунгам права народу на самавызначэнне. Аднак менавіта тымі ж словамі аргументуюць у Лондане права жыхароў Фальклендаў заставацца грамадзянамі Вялікабрытаніі. Таму, каб захаваць у складзе Каралеўства Шатландыю, пра права народу, у тым ліку фальклендцаў, на самавызначэнне на Даўнінгстрыт, 10 могуць хутка забыць. Што, зразумела, яшчэ больш павялічвае шансы на вяртанне архіпелагу ў лона Аргенціны.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Палітычныя выдаткі саюза Крамля з Лукашэнкам могуць апынуцца занадта вялікімі. Хуткае пакаранне смерцю двух асуджаных за выбух у мінскім метро ў красавіку 2011 года паставіла Расію перад цяжкім палітычным выбарам: працяг хаўрусніцкіх адносін з цяперашняй Беларуссю стане прамой падтрымкай рэжыму, які кінуў адкрыты выклік Захаду. Таксама Расія ўбачыла, наколькі палітычна дзікім з'яўляецца рэжым яе найбліжэйшага саюзніка і суседа: для краіны, размешчанай у Еўропе, такія паводзіны, з пункту гледжання базавых каштоўнасцяў еўрапейскай цывілізацыі, здаецца папросту неймаверным.

**«Gazeta.ru» (Расія)**

Прысудам і папярэднім судовым працэсам над Дзмітрыем Канавалавым і Уладзіславам Кавалёвым Лукашэнка дэманструе краіне, якую ўладу ён мае ў пытанні жыцця і смерці. Такім чынам ён імкнецца ўмацаваць свае ўнутрыпалітычныя пазіцыі. Што да еўрапейскіх суседзяў, то яны могуць за гэтым толькі назіраць. Нягледзячы на свае шматлікія санкцыі. Да таго часу, пакуль Расія за Лукашэнку, Захад — бяссільны. Фінансавая дапамога ў адказ на рэформы? Такая прапанова рабілася ЕС часта. І — адхілялася. Лукашэнка мог абысціся без яе, бо меў падтрымку Масквы. За гэта ён служыць ёй з усёй адданасцю васала. Скажыце, які яшчэ дзяржаўны дзеяч можа дазволіць сабе зрабіць закід у бок міністра замежных спраў Германіі, што лепш быць дыктатарам, чым гомасэксуалістам?

**«FinanzNachrichten» (Германія)**

Самая вялікая памылка — тое, што Лукашэнку не ўспрымалі сур'ёзна. А дыктатар, нават калі ён смешны, бульбяны, — гэта сур'ёзна. Людзі ў Беларусі жывуць з адчуваннем пагрозы. Цэнзура — гэта самае малое, там проста знікаюць людзі. У дачыненні да Лукашэнкі неабходна сур'ёзная рэакцыя: стабільная палітыка без лішніх слоў і эмоцый. Дзеянні ЕС у апошнія гады былі поўнай супрацьлегласцю гэтай тэзы, таму нядзіўна, што яны былі расцэнены як слабасць.

**«Krytyka Polityczna» (Польшча)**

Жарты скончыліся. Людзі, якія (асабліва ў некаторых краінах ЕС) кажуць пра тое, што да Лукашэнкі трэба ўжываць мяккія меры, ці пра тое, што існуюць шанцы на кампраміс з рэжымам, павінны раз і назаўжды замоўкнуць. У рэжыму на руках кроў, зрэшты, не ў першы раз за яго кар'еру. І рэжым трэба ўспрымаць менавіта так. Не будзем баяцца называць рэчы сваімі імёнамі. І не пабаімся прывесці еўрапейскую палітыку ў адпаведнасць з імі.

**«Gazeta Wyborcza» (Польшча)**

Афіцыйны Мінск пойдзе да канца з мэтай уцягнуць у гэты канфлікт з Захадам і Маскву. Па-сутнасці, Беларусь правакуе Еўропу на ўвядзенне эканамічных санкцый, каб уцягнуць у канфлікт Крэмль, каб сысці пад яго поўнае палітычнае заступніцтва, а затым абавязаць узяць эканоміку рэспублікі на поўнае ўтрыманне, але пры гэтым так, каб не рабіць ніякіх крокаў па яе рэальным рэфармаванні.

**«REGNUM» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### **РАСІЯ.** ЮБІЛЕЙ ІДЭОЛАГА ТАТАРСКАГА НАЦЫЯНАЛІЗМУ

У Казані ў галоўным тэатры татарскай сталіцы з помпай адзначылі 70-годдзе пісьменніка Айдара Халіма, вядомага нацыяналіста. Айдар Халім праславіўся як заўзяты русафоб. «Гвалт, мацюкі, гарэлка, бруд, вошы, падман, пажары, падпалы, кара смерцю, згвалтаванні, самагубствы — вось што мне прынёс рускі народ. І больш нічога», — піша ён. Рускі народ, па меркаванні татарскага пісьменніка, «мафіёзны», а шлюбы татараў з рускімі «заражаюць татарскую нацыю ўсімі хваробамі і брудам славянскай рэчаіснасці». Нягледзячы на такую творчасць, юбілей Халіма адбыўся пад патранатам дзяржавы. Больш таго, татарскі ўрад, здаецца, гатовыя выканаць даўнюю мару Халіма — пабудаваць помнік ахвярам штурму Казані войскамі Івана Жахлівага. Прынамсі такое пытанне ўжо ставілася на павестку дня працы прэм'ера. Адзіная версія адказу на пытанне, чаму чыноўнікі, якія ходзяць пад Масквой, падтрымліваюць Халіма, магчыма, звязана з персанальнымі стаўленнем юбіляра да Мінцімера Шаймієва, папярэдняга кіраўніка аўтаноміі. Шаймієва, якога шмат хто не любіць, Халім у свой час адкрытым тэкстам называў «прыстасаванцам» і «дыктатарам».

**Паводле расійскай прэсы**

### **ПОЛЬШЧА.** ІНТЭРБРЫГАДЫ СУПРАЦЬ ЕЎРАПЕЙСКАЙ БЮРАКРАТЫІ

Увесь актыў вядучай польскай апазіцыйнай партыі «Права і справядлівасць» (PiS) выправіўся на спецыяльным цягніку ў вандроўку. Прыкладна 700 «пісаўцаў» паехалі ў Будапешт, дзе 15 сакавіка адсвяткавалі дзень рэвалюцыі 1848 года. Мэта ваяжу, па словах лідара PiS Яраслава Качыньскага, — «аказаць падтрымку будаўніцтву суверэннай венгерскай дзяржавы». Гаворка пра палітычную мадэль, якую спрабуе будаваць у Венгрыі правая папулісцкая партыя «Fidesz» , што фармуе мясцовы ўрад. Апошнія заканадаўчыя ініцыятывы прэм'ера Віктара Орбана выклікі пратэсты ў Брусэлі. Так, Еўрапейская камісія лічыць, што рэформы супярэчаць прынцыпам грамадзянскіх свабодаў. Аднак, на думку Качыньскага і яго паплечнікаў, крытыка Будапешту з боку Брусэля — спроба еўрапейскай бюракратыі задушыць стварэнне суверэннай дзяржавы, заснаванай на хрысціянскіх каштоўнасцях. Польскія правыя таксама сцвярджаюць, што сваім візітам на берагі Дунаю яны працягваюць традыцыю польскіх добраахвотнікаў, якія ў 1848 годзе запісалі ў венгерскую армію, каб змагацца за незалежнасць краю. Таксама варта дадаць, што PiS даўно марыць імпартаваць напрацоўкі Орбана ў Польшчу.

**Паводле польскай прэсы**

### **КАНАДА.** ПАМЁР АПОШНІ ПРЭЗІДЭНТ УКРАІНСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

У Канадзе памёр Мікола Паўлюк, апошні прэзідэнт Украінскай Народнай Рэспублікі (УНР). Як і БНР, Украінская Народная Рэспубліка паўстала ў часы рэвалюцыі, пасля грамадзянскай вайны яе кіраўніцтва перабралася ў эміграцыю. Тут УНР існавала да 1992 года, калі яе кіраўніцтва вырашыла, што прыйшоў час выканаць адзін з пунктаў статуту ўраду УНР. Прыняты яшчэ ў 1919 годзе па ініцыятыве Пятлюры, ён патрабуе ад сябраў ураду УНР спыніць дзейнасць у выпадку, калі Украіна будзе незалежнай. Кіраўнікі УНР вырашылі, што абвешчаная на базе Украінскай СССР Рэспубліка Украіна цалкам адпавядае крытэрыю незалежнай дзяржавы. У тым жа 1992 годзе ў Кіеве на ўрачыстай цырымоніі Мікола Паўлюк уручыў прэзідэнту Леаніду Краўчуку сцяг і пячатку УНР. Так закончыўся гістарычны канфлікт паміж двума цэнтрамі ўкраінскай дзяржаўнасці. Хаця Краўчук падпісаў спецыяльны ўказ аб наданні Паўлюку ўкраінскага грамадзянства, той вярнуўся ў Канаду, дзе днямі памёр. Хочацца дадаць, што эміграцыйны ўрад БНР, у адрозненні ад УНР, дасюль працягвае дзейнасць.

**Паводле ўкраінскай прэсы**




### **АЗЕРБАЙДЖАН.** РАСІЙСКІ ФІЛЬМ У ЧОРНЫМ СПІСЕ

У спіс забароненых фільмаў у шэрагу краін СНД трапіў расійскі фільм «Жнівень. Восьмага». Прэм'ера карціны адбылася ў Маскве яшчэ 23 лютага ў прысутнасці расійскага прэзідэнта. Стужка прысвечана жнівеньскай вайне 2008 года паміж Грузіяй і Расіяй. Сюжэт распавядае пра маладую маці, якая, рызыкуючы жыццём, змушана прабірацца ў Паўднёвую Асецію, дзе апынуўся яе 7-гадовы сын, якога яна адправіла туды напярэдадні канфлікту. Відавочна, што ўся вайна паказана праз маскоўскую прызму бачання. Таму нядзіўна, што карціну адразу забаранілі ў Грузіі. Аднак фільм не спадабаўся не толькі ў Тбілісі. «Жнівень. Восьмага» таксама знялі з пракату ў Азербайджане і Малдове. Тут лічаць, што прапаганда асецінскага сепаратызму спрыяе мясцовым сепаратыстам. Шэраг грамадскіх арганізацый Украіны выступілі за забарону карціны. Мінкульт пакуль маўчыць, затое актыўна дзейнічаюць кінапракатчыкі. Так, у Крыму яны распаўсюдзілі ў прэсе інфармацыю пра тое, што карціну вось-вось забароняць. Справа ў тым, што два гады таму ва Украіне забаранілі стужку «Мы з будучага 2», героі якой — у тым ліку «злыя» бандэраўцы. Гэта выклікала бум інтарэсу гледачоў да дастаткова сярэдняга фільму і прынесла яго прадаўцам шмат грошай.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

РЭЗАНАНС

# ВА УКРАІНЕ ПРОСЯЦЬ СМЕРЦІ

**Пакуль шакаванае расстрэлам Канавалава і Кавалёва беларускае грамадства патрабуе ад улады як мінімум мараторыя на смяротнае пакаранне, шматлікія ўкраінцы мараць пра адваротнае. Прычынай стала трагедыя мікалаеўскай дзяўчыны Аксаны Макар. Пра гэта журналіст «НЧ» Алег Новікаў размаўляе з кіеўскім журналістам Юрыем Дакукіным.**



— 9 сакавіка ў Мікалаеве трое маладых людзей запрасілі 19-гадовую Аксану Макар у кватэру, па чарзе згвалтавалі яе, а затым прыдушылі. Пасля паспрабавалі замесці сляды і спаліць цела ў двары на вогнішчы, не зразумеўшы, што Аксана яшчэ жывая. Дзяўчына выжыла, але знаходзіцца ў вельмі цяжкім стане: ёй ужо ампутавалі руку і стопы. Зараз сітуацыя вельмі складаная. За станам здароўя Аксаны назірае ўся краіна. Аднак відавочна — нават калі дзяўчынка выжыве, яна застанецца калекай.

***— Менавіта гэты садызм і выклікаў у грамадстве патрабаванні вяртання ў Крымінальны кодэкс артыкула пра смяротнае пакаранне?***

— Так. Акрамя таго, сама ж дзяўчына, калі прыйшла ў свядомасць, з дапамогай мамы запісала зварот на відэа, у якім папрасіла расстраляць гвалтаўнікоў. Пазней у інтэрнэце з'явілася відэа, у якім Аксана на бальнічным ложку кажа, што жадае, каб тым хлопцам у дадатак «адрэзалі яйкі і далі з'есці сабакам», ці каб іх згвалтавалі на зоне.

***— Маці пацярпелай, патрабуючы смерці для гвалтаўнікоў, прыводзіць пакаранне Кавалёва і Канавалава ў якасці прыкладу. Цытую: «Калі ім дадуць пажыццёвае, то гэтага для іх будзе мала. Бо іх будуць карміць тры разы ў дзень, вадзіць у лазню... У Беларусі каралі смерцю тэрарыстаў, так і гэтых трэба, але на вачах у іх бацькоў». Наколькі апошнія падзеі ў Беларусі ўплываюць на дыскусію ва Украіне наконт смяротнага пакарання?***

— На самай справе, праекцый на сітуацыю ў Беларусі з боку тых, хто выступае за смяротнае пакаранне для гвалтаўнікоў Аксаны, вельмі мала. Пагроза тэрарызму — за гэта асудзілі хлопцаў у Мінску, — тым больш з палітычным прысмакам, здаецца ўкраінцам фантомнай. Злачынства ў Мікалаеве іншага кшталту. Яно звязана з балючай для Украіны тэмай так званых «мажораў». Апошнім часам было зарэгістравана шмат выпадкаў, калі дзеці багатых бацькоў нахабна паводзілі сябе ў публічных месцах. Найбольш гучнай была справа Рамана Ландзіка, сына аднаго з бонзаў луганскай Партыі рэгіёнаў. Ён моцна збіў у кафэ дзяўчыну. Пазней стала вядома, што гэта не першы выпадак. Ландзік за год да гэтага нават пераехаў на машыне 17-гадовага хлопца. Аднак бацька сына «адмазаў». Гэта выклікала такі моцны пратэст грамадства, што нават Януковіч узяў справу пад кантроль. У выніку «мажора» асудзілі на тры гады. У Мікалаеве сітуацыя нейкім чынам паўтарылася. Адзін з трох гвалтаўнікоў быў сябрам Саюза маладых рэгіёнаў Украіны. Гаворка пра 23-гадовага Максіма Прысяжнюка. Акрамя таго, ён — сын экс-кіраўніка адміністрацыі аднаго з гарадоў Мікалаеўшчыны. А тое, што двух з трох гвалтаўнікоў пасля першага допыту адпусцілі, яшчэ больш раз'юшыла людзей.

***— Хто канкрэтна з палітыкаў і партый патрабуе ўвядзення смяротнага пакарання?***

— На жаль, практычна ніводная палітычная сіла не ўпусціла магчымасці зрабіць рэкламу на гэтай тэме. Так, напрыклад, Кампартыя прапанавала вярнуць вышэйшую меру пакарання для асобаў, якія зрабілі цяжкія злачынствы. Падтрымалі ідэю і іх ідэйныя праціўнікі — нацыяналісты з партыі «Свабода». Выказаліся ў падтрымку смерці і некалькі дэпутатаў з Партыі рэгіёнаў. Не так даўно дзяўчыны з ініцыятывы «Femen» акупавалі ўваход у Генеральную пракуратуру Украіны і скандавалі: «Смерць садыстам!» і «Пакараць смерцю нягоднікаў!»

***— Наколькі рэальна, што ўлада пойдзе на вяртанне да смяротнага пакарання?***

— Думаю, што ніякіх зменаў не будзе. Прынамсі пакуль. Украіна адмяніла смяротнае пакаранне таму, што ўзяла ў свой час адпаведныя абавязкі перад Парламенцкай асамблеяй Савета Еўропы. Кіраўнік юрыдычнага ўпраўлення Вярхоўнай Рады Міхаіл Цяплюк, каментуючы ініцыятывы камуністаў, заявіў, што смяротнае пакаранне прызнана ва Украіне неканстытуцыйным з улікам агульных артыкулаў Канстытуцыі Украіны. Раней Канстытуцыйны суд Украіны ўжо прымаў адпаведнае рашэнне.

***— Аднак нельга забываць, што на носе парламенцкія выбары...***

— Я б не хацеў так моцна ідэалізаваць празрыстасць і дэмакратычнасць нашай выбарчай сістэмы. Аднак думаю, што ў выніку выбаршчык добрае падумае, ці патрэбна яму тое смяротнае пакаранне. Існуе вялікая праблема няякаснай праваахоўнай і судовай сістэмы. Толькі 10 працэнтаў крымінальных спраў, па статыстыцы, расследуецца. Гэта дае прастор для махінацый і карупцыі. Быў у нас не так даўно такі маньяк Сяргей Ткач, які доўга гуляў на волі. Дык вось, за зробленыя ім забойства былі памылкова асуджаны 10 чалавек. Аднаго з іх — 14-гадовага хлопчыка па абвінавачванні ў забойстве сваёй дзевяцігадовай пляменніцы — асудзілі на 15 гадоў. Ён адсядзеў два, перад тым, як Ткач прызнаўся ў гэтым забойстве. Іншы асуджаны па справе таго ж Ткача быццам за забойства ўласнай дачкі, у турме не вынес катаванняў і абвінавачванняў і павесіўся. І гэта толькі самыя вядомыя выпадкі.

***— Такім чынам, смяротнае пакаранне не пагражае ўкраінцам. Аднак, магчыма, тое, што адбылося ў Мікалаеве, можа паўтарыцца і, адпаведна, змяніць падыходы. Адсюль пытанне: выпадак у Мікалаеве — гэта не тэндэнцыя?***

— Зразумела, што гэта не проста выпадак. Так, шмат каму падабаецца версія пра тое, што схільнасць да садызму нашмат бліжэй дзецям высокіх адказных чыноўнікаў і бізнэсмэнаў, чым дзецям так званых простых людзей. «Мажораў» быццам аўтаматычна разбэшчвае асяроддзе, у якім яны растуць. А партыя «Свабода» ў піку ініцыятыве Януковіча надаць рускай мове статус дзяржаўнай, кажа, што крыніцы злачынства палягаюць у тым, што ў Мікалаеве размаўляюць па-руску. Быццам гэта мова шансонаў, што крыміналізуе грамадства. Гэта, натуральна, перабор. Затое ў вочы кідаецца сапраўды жудасная маральная дэградацыя.

Адзін з гвалтаўнікоў — малады бацька, які, па словах сведак, амаль не можа жыць без алкаголю. Далей — Аксана пагадзілася зайсці дахаты да хлопцаў, з якімі толькі што пазнаёмілася ў кафэ. Прычым па дарозе яны быццам набылі ў яе прысутнасці гарэлку і прэзерватывы. Чаму яна пайшла з імі? Хіба ў 19 гадоў — не час ужо разумець, што прыватная кватэра — не месца для спатканняў з малазнаёмымі людзьмі? Яшчэ страшней рэакцыя публікі. 10 сакавіка Аксану знайшлі ледзь жывой. Аднак толькі 13 сакавіка, гэта значыць на чацвёрты дзень пасля трагедыі, некалькі дзясяткаў чалавек правялі пікеты РАУС, а затым на цэнтральнай плошчы Мікалаева, чым прыцягнулі ўвагу да справы з боку СМІ і грамадства. Але чым быў выкліканы гэты пікет? Выключна тым, што па інтэрнэту прайшла плётка пра тое, што сярод абвінавачаных ёсць «мажоры» з Партыі рэгіёнаў. З такім прымітыўным узроўнем грамадскай свядомасці і маралі не дзіўна, што грамадства ўсё часцей жадае вяртання да практыкі смяротнага пакарання.

КАНФЛІКТ

# ЭКАНОМІКА І РЭВАЛЮЦЫЯ

Алег НОВІКАЎ

**Роўна год таму ў Сірыі пачаліся пратэсты супраць рэжыму Асада. Якім чынам паўстанне паўплывала на стан сірыйскай эканомікі?**



Адразу расчаруем песімістаў. За год паўстання сірыйская эканоміка не абвалілася.

Увогуле, калі пачалося паўстанне, здавалася, што менавіта эканоміка — галоўны чыннік масавай незадаволенасці. Першапачатковым плацдармам пратэстаў быў не Хомс, а Дараат — цэнтр адсталага сельскагаспадарчага краю і бедныя прыгарады буйных гарадоў. Таму спачатку ўрад вырашыў, што ведае, як можна хутка лакалізаваць рух.

Праз некалькі дзён пасля пачатку пратэстаў урад абвясціў пра значнае павелічэнне заробкаў бюджэтнікам (дзяржаўны сектар уключае прыкладна 30 працэнтаў працоўных сілы) і выдачу дзяржаўных субсідый для вытворцаў паліва, што прывяло да скарачэння коштаў на бензакалонках на 25 працэнтаў. Былі павялічаныя закупачныя кошты на прадукцыю фермераў. Студэнты атрымалі магчымасць больш лёгка браць банкаўскія пазыкі на вучобу. Было абвешчана пра стварэнне фонду сацыяльнага жылля ў Дамаску і Алепа — самых буйных гарадах краіны.

Аднак гэтыя меры мала паўплывалі на дынаміку пратэстаў. Больш таго, пратэстоўцы вырашылі, што ім намагаюцца даць хабар. Было відавочна, што эканамічных крокаў недастаткова. Патрэбны былі палітычныя рэформы.

Затое пералічаныя меры ясна прадэманстравалі прыроду ўраду. Яго эканамічныя рашэнні былі заснаваныя на палітычнай павестцы дня і на спалоханай рэакцыі замест рацыянальнага аналізу эканамічнай сітуацыі. Гэта выклікала глыбокі недавер да Асада сярод дзелавых колаў і парушыла ўсе доўгатэрміновыя эканамічныя планы ўраду. Нагадаем, што ў 2005 годзе была прынятая стратэгія эканамічнай лібералізацыі сірыйскай эканомікі. Сэнс новай канцэпцыі, якая атрымала назву «Сацыяльная рынкавая мадэль», палягаў у тым, каб даць больш свабоды прыватнаму сектару. Так, сацыяльныя расходы бюджэту мусілі скарачацца, адпаведна плану, на 25 працэнтаў. Аднак у віхуры рэвалюцыі пра тыя рэформы канчаткова забылі.

Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што пасля пачатку пратэстаў інвестары пачалі сыходзіць з сірыйскага рынку. Напрыканцы ліпеня Інвестыцыйнае агенцтва паведаміла аб 43-працэнтным зніжэнні за апошні год колькасці выдадзеных ліцэнзій на гаспадарчую дзейнасць. Ёсць і іншыя індыкатары. Так, активы прыватных банкаў у Сірыі скараціліся за першыя 6 месяцаў 2011 года на 15 працэнтаў. Тавараразварот у двух галоўных партах краіны за 9 месяцаў мінулага года ўпаў на 10 працэнтаў.

Праўда, нельга казаць пра тое, што рэжым цалкам пазбавіўся падтрымкі бізнэсу. Пра гэта сведчыць адсутнасць руху пратэстаў у Дамаску і Алепа — фінансавых цэнтрах краіны. Улады тлумачаць гэта тым, што клас прадпрымальнікаў на іх баку. Аднак сітуацыя на месцах больш складаная. Так, у ліпені гандлёва-прамысловая палата Усходняй Сірыі фармальна асудзіла паводзіны паліцыі і арміі. Паведамляецца, што на месцах малы бізнэс актыўна фінансуе акцыі грамадзянскай непакоры.

Прыкладна з восені мінулага года супраць краіны пачалі дзейнічаць эканамічныя санкцыі, супраць увядзення якіх выступаў не толькі ўрад, аднак і частка мясцовай апазіцыі. На думку крытыкаў, увядзенне санкцый давядзе эканоміку, якая і так з-за папуліцкіх манеўраў ураду дыхае на ладан, да поўнага краху. Яны таксама звяртаюць увагу на тое, што скарачэнне экспарту нафты і выкліканы гэтым бюджэтны дэфіцыт могуць у перспектыве падарваць працу сацыяльных службаў.

Мае сэнс таксама згадаць пра тое, што на сродкі сірыйскага бюджэту ў краіне існуе вялікая (прыкладна некалькі дзясяткаў тысяч чалавек) калонія ўцекачоў з Іраку. Яны патэнцыйна здольныя стаць крыніцай сацыяльнай дэстабілізацыі.

Не верылі і не вераць крытыкі санкцый і ў тое, што яны ўсур'ёз абмяжуюць дзейнасць праўладнага бізнэсу, рахункі якога ў Еўропе зараз замарожаныя. Чамусьці ўсе ўпэўненыя, што буйныя сірыйскія прадпрымальнікі трымаюць рахункі ў еўрапейскіх банках праз пасярэднікаў.

Санкцыі, аднак, былі ўведзеныя ў тым ліку з боку стратэгічна важных для Сірыі эканамічных партнёраў — краін Арабскай лігі, Турцыі, Еўрасаюза і ЗША.

Санкцыі пачалі дзейнічаць прыкладна з восені мінулага года, і казаць пра іх эфект пакуль рана. Можна дакладна казаць толькі пра тое, што моцна пацярпеў экспарт нафты, за кошт чаго галоўным чынам фармаваўся бюджэт. Міністэрства нафты абвясціла ў снежні пра тое, што здабыча нафты паменшылася ад 387 000 барэляў у дзень да 270 000 барэляў. Гэта азначае скарачэнне экспарту на 30 працэнтаў. Зараз няма ніякай яснай перспектывы, за кошт якіх рынкаў і як урад збірае аднавіць былыя экспартныя паказчыкі.

Скарачэнне экспарту выклікала пагрозу дэфіцыту замежнай валюты і інфляцыі. Акрамя таго, на курс сірыйскага фунта негатыўна паўплывала падзенне турыстычнага рынку і ўцёкі іншаземных інвестараў. Важна таксама нагадаць, што нягледзячы на сур'ёзнае абмежаванне валютнага рынку з боку дзяржавы, большасць гандлёвых кантрактаў у Сірыі афармляецца ў доларах або еўра.

Аднак у выніку дзяржава не дапусціла абвалу. У мінулым годзе інфляцыя фунта склала каля 25 працэнтаў у адносінах да долару. Сірыйскі фунт захаваў адносную пакупніцкую здольнасць у замежжы. Рознічныя тавары хаця і падаражалі, аднак не катастрафічна. Дэфіцыту асноўных прадуктаў і тавараў не назіраецца.

Моц сірыйскага фунта цяжка зразумець, паколькі ніякіх буйных інвестыцый на біржу цэнтральны банк Сірыі не рабіў. Магчыма, сакрэт фінансавага цуда ў тым, што сірыйскі Мінфін мае беспрацэнтную крэдытную лінію ў цэнтрабанках Ірану і Іраку, якія адкрыта падтрымліваюць рэжым у Дамаску. Наяўнасць знешніх філантропаў, здавалася, робіць рэжым санкцый абсалютна не эфектыўным.

Аднак падтрымліваць эканоміку доўгі час наўрад ці магчыма. Так, курс фунта за студзень 2012 года страціў 15 працэнтаў. Адначасова сталі прыходзіць навіны пра пагаршэнне паўсядзённай сітуацыі. Нармальнай практыкай стала скарачэнне падачы электраэнергіі. У шматлікіх раёнах яе даюць толькі тры гадзіны на дзень. Таксама часта назіраюцца перабоі з газам. Колькасць бензіну па фіксаваных дзяржавай коштах абмежаваная. Таму існуе чорны рынак, дзе той жа мазут каштуе ўдвая больш. Праўда, развал інфраструктуры шмат у чым звязаны не з санкцыямі, а з вайсковымі дзеяннямі, у тым ліку акцыямі праўладных войскаў.

Відавочна, што выратаваць эканоміку Сірыі здольныя не падачкі сяброў, а палітычныя ініцыятывы, паколькі крызіс мае палітычна-эканамічны характар. Аднак дасюль няма ніякіх знакаў таго, што Асад гатовы на сур'ёзны дыялог.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### СЯРГЕЙ МІРОНАЎ



Лідар партыі «Справядлівая Расія» замахнуўся на тандэм Пуцін–Мядзведзеў, выступіўшы супраць абмену пасадамі пасля інаўгурацыі абранага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна. Як вядома, напярэдадні выбараў Пуцін паабяцаў Мядзведзеву пасаду прэм'ера. Сяргей Міронаў упэўнены: думскія эсэры не павінны падтрымліваць кандыдатуру цяперашняга прэзідэнта пры галасаванні наконт яго прызначэння прэм'ерам. «Няма нічога добрага ў так званых ракіровачках», — кажа ён. Палітолагі спрабуюць зразумець, што хаваецца за фрондай Міронава, які мае імідж вельмі лаяльнага палітыка. Ён першым павіншаваў Пуціна з абраннем на пасаду прэзідэнта. Вядомы эксперт Глеб Паўлоўскі кажа, што Міронаў проста агучвае думку Пуціна, якому, здаецца, надакучыў Мядзведзеў. Варта нагадаць, што Пуцін і Міронаў — асабістыя сябры. Іншыя кажуць, што эсэры загадзя спрабуюць пазіцыянаваць сябе як галоўную апазіцыю будучаму ўраду Мядзведзева. Распаўсюджана думка, што рукамі Мядзведзева Пуцін зробіць некалькі непапулярных ліберальных эканамічных рэформаў, а пасля хуценька адправіць урад у адстаўку. Такім чынам, той, хто раней пачне крытыкаваць Мядзведзева, у будучыні можа зрабіць сабе някепскі піяр.

### МАРЫЯНА РАХОЙ



Рахой — кансерватыўны прэм'ер Іспаніі, якая святкуе 200 гадоў прыняцця першай канстытуцыі. У сакавіку 1812 года ў Кадысе Картэсамі быў прыняты канстытуцыйны акт. Іспанія абвяшчалася канстытуцыйнай манархіяй. Гэта была вельмі ліберальная канстытуцыя. Нядзіўна, што кароль адмяніў яе праз 5 тыдняў. Аднак аказалася, што канстытуцыя 1812 года, якую таксама называюць Ла Пепа (яна была прынятая 19 сакавіка, у дзень святога Іосіфа, Пеп — памяншальнае ад Іосіф), гэта яшчэ і падручнік для сучасных палітыкаў. Па словах Рахоя, «жыхары Кадыса навучылі нас, што ў час крызісу трэба не толькі рабіць рэформы, аднак і мець мужнасць, каб іх рабіць». Безумоўна, спасылка на Канстытуцыю павінна апраўдаць цяперашні курс яго ўраду. Ініцыятывы кабінету па скарачэнню сацыяльных фондаў выклікалі незадавальненне прафсаюзаў і студэнтаў. Па падліках палітолагаў, Іспанія пабіла свой асабісты рэкорд па колькасці маніфестацый. Кожныя 54 хвіліны ў краіне адбываецца нейкая публічная антыўрадавая акцыя. Левыя ўжо выступілі супраць таго, каб Рахой прыкрываў свае забабоны кадыскай канстытуцыяй.

### ІРАКЛІЙ АЛАСАНІЯ



Лідар грузінскай апазіцыйнай партыі Свабодных дэмакратаў 20 сакавіка зрабіў сенсацыйную заяву. Ён сцвярджае, што ў Заходняй Грузіі ўлада фармуе ўзброеныя атрады колькасцю да 500 чалавек. Іх галоўная задача, па яго словах, «запалохванне насельніцтва ў ходзе выбараў». Больш таго, быццам у стварэнні партызанскай базы ўдзельнічаюць спецслужбы Саакашвілі. Па словах галоўнага свабоднага дэмакрата, стварыць незаконныя фармаванні прэзідэнт даручыў братам Ахалая — адзін з іх з'яўляецца міністрам абароны, другі — супрацоўнікам МУС. Улада ўжо адрэагавала на сенсацыйны выступ. Адзін з фігурантаў прамовы, міністр абароны Бача Ахалая, назваў заявы Аласаніі трызненнем, растлумачыўшы, што яго ведамства ўжо даўно будуе сістэму добраахвотнага рэзерву. У яе можа запісацца кожны жадаючы, але зарплата для рэзервістаў не прадугледжана. Застаецца дадаць, што літаральна напярэдадні гучнай прэс-канферэнцыі Аласанія заключыў дамову з дзвюма іншымі апазіцыйнымі структурамі па стварэнню агульнага блоку на наступныя выбары. Цікава, што жыхары раёнаў, дзе быццам стварающа нефармальныя вайсковыя групоўкі, прызнаюць, што сапраўды бачылі падазроных людзей і чулі стрэлы.

УСПАМІНЫ

# ДЗІЦЯЧЫМІ ВАЧЫМА — ВАЙНА

Арсень ЛІС



**Дзіцячае ўспрыманне свету, жыцця — лінейнае. Для пяці-сямігадовага хлапчаняці зыход Польшчы, прыход Саветаў, пачатак вялікай вайны — проста пачарговая змена падзей, жывыя абразкі часу, памятныя і знікомыя ўражанні.**

Зіма 1940 года запомнілася не столькі вялікімі маразамі (яны такі сягалі сарака градусаў, стралялі вуглы будовы, старыя дрэвы), як снежнымі заносамі. Вуліца раптам узвысілася вялізнымі гурбамі — пайшла вышэй платоў. Бачу і праз гады, як маці ў чорна-зялёным вазку на ветры, ледзь упраўляючыся з канём, кіруецца па той уздыбленай сняжніне ў дарогу. Выпраўлялася вырабіць патрэбныя паперы, каб паехаць у горад Роўна. Бацька на той час яшчэ не вярнуўся з польска-нямецкай вайны. Затабарыўся дзесь пад Роўна ў лагеры для ваеннапалонных. Напісаў, што яму там ніштавата: заняты вялікай работай — будуюць шашу, вырабляе норму, кормяць няблага. Адно кепска — даймае смутак па доме. На тую вестку без адкладу маці сабралася ў няблізкую дарогу. Пазней калі-нікалі з уражанняў ад таго падарожжа на Украіну штосьці прыгадвалася ўслых. На перасадках пасажыры бралі цягнік штурмам. Кожны раз прыходзіла ўзрушэнне, як сесці. Але шчаслівая, у цяжку на сёмым месяцы, натоўп літаральна ўносіў у вагон. Міналі палескія станцыі, з дзяўчатамі на пероне, апранутымі ў вышываныя строі, абутымі ў лапцікі, з чырвонаармейцамі пад ручку. На адной са станцый у чаканні чарговага цягніка раз праняў да слёз пачуты з рэпрадуктара раманс «Выхожу один я на дорогу…»

Шчаслівае душэўнае ўзрушэнне словам, мелодыяй на ўсё жыццё — бывае такое. Уражвала яшчэ паведамленне з рэпрадуктара, выклікала подзіў, недаўменне. Дыктар бойка расказваў пра гераічную працу будаўнікоў, якія на саракаградусным марозе ўзводзілі высотныя будынкі. «Як чалавек вытрымлівае там, на рыштаваннях, на гэткім сіверы?» — думала, пыталася ў сябе. У пачакальні на станцыі Сарны сталага веку мужчына-чарнавус казаў суседу, але голасна, каб пачулася і далей: «Нас ужо, чалавеча, усадзілі ў мяшок, засталося толькі завязаць...» Гаварылі пра вывазы.

Там, пад Роўна, жончыны адведзіны былі нечаканасцю. Здалося, бацька аж спалохаўся, убачыўшы яе ля лагернай брамы. У асобым стане, апранутая ў добрае зімовае паліто, набытае ў знаёмага смаргонскага крамара, побач з хударлявым, гарбаносым лагерным адміністратарам, яна выглядала досыць самавіта. Не сказаць, што змізарнелым лагернікам убачыла яна і свайго Сяргея. Быў не ў вайсковых абносках, як дзе хто, а ў цывільным сціплым картовым касцюмчыку. Нібыта на вольным пасяленні, хоць лагерныя будынкі бачна абходзіла наўкол высакаватая драцяная агароджа. Гаварыць міжсобку ім ніхто не перашкаджаў. Муж пахваліўся, што выбіваецца ва ўдарнікі. Толькі часам неяк нязвычна трымаў правую руку. Прызнаўся, што ахваціў яе: тачкі са жвірам пад насціл для цвёрдага пакрыцця дарогі — цяжкія.

***

Калі пасля лютых маразоў 1940 года наступіла вясна, наша сядзіба апынулася ў нязвычным атачэнні. Вымерз без мала ўвесь вялікі стары дзедаў сад. Засталося толькі тры летнія яблыні на прыгуменні. Яны былі мясцовага заводу і аказаліся больш устойлівымі перад маразамі. Непадалёк ад хаты старая груша, што звычайна кожную вясну апраналася ў белы вэлюм суквеццяў, цяпер на фоне сіняга неба тоўстымі мёртвымі сукамі нагадвала распяцце. Несамавіта глядзеліся таўшчэзныя камлі старадрэвін-вішань ды іх высунутыя далёка ў прасцяг голыя чорныя сукі-галіны. А так добра было ўлетку, хоць і з цяжкасцю ўзабраўшыся на іх, смакаваць цёмна-чырвоныя сакавітыя ягадзіны.

Другую зіму з 1940 на 1941 год мы з маці зімавалі без бацькі, але ўжо ўтраіх. У мяне з'явіўся малодшы брацік Лёня, а з ім, як у старэйшага, і клопат-абавязак: пакуль маці аглядалася па гаспадарцы, — гойдаць яго ў калысцы. Болей не было ў маці на каго абаперціся. Бабуля мая Прузына ў самае перадзім'е, вялікія маразы 1940 года, адышла ў іншы свет. Толькі праз гады, пазнаўшы жыццё, я мог расшыфраваць незразумелы мне тады яе ўздых: «Няма нічога ўсцешнага». Не было пры яе адыходзе ў вечнасць ніводнага з яе траіх сыноў. Два старэйшыя, хоць і адкрыліся ў верасні 1939 года мяжа, як сышлі ў Расію, так і не азваліся. Не было з польска-нямецкай вайны і наймалодшага, яе Сярожкі. Праўда, аказаўся з лагера лістом — дзякаваць Богу жывы.

Я чакаў бацьку. Здаралася, як паглядзець з аддалі часу, дык і смешна. Узабраўшыся на заснежаную страху падпаветкі, я ўглядаўся ў паўднёва-заходнім напрамку, за рэчку. Ведаў, што недзе там, далёка, — бацька. Нават спрабаваў гукаць у той бок на захад сонца. З бацькам было мне надзейна, пэўна. Ён браў мяне ўсюды, дзе толькі было можна, з сабою. Калі схлынала паводка, і рыба пасля нерасту ў вярхоўях вярталася ў Вяллю, мы з ім разам выбіралі з бучоў серабрыстых плотак ды цёмна-зялёных з галоў, вастраносых шчупакоў. Цэлая асалода было ехаць, седзячы за яго спінай высока на возе з сенам, везучы з зарэчнай сенажаці духмяны водар высушанай травы ў адрыну. Ці калі ён, як я потым тое сцяміў, хітраваў, расказваючы мне казкі, пачынаючы з загадкавага: «Даўным-даўно, калі не было яшчэ ні неба, ні зямлі, а людзі калы білі і па плоце хадзілі...» «Як гэта не было ні неба, ні зямлі? — не даўмявалася мне. — Хіба яны не вечныя?» «Нішто не вечнае», — казаў бацька і переставаў хітравата ўсміхацца. З палону ён вярнуўся чакана-нечакана. Толькі за два месяцы да выбуху новай вайны. Была раніца. Мы з маці якраз снедалі, калі наш Нэрусь, неяк нязвычна яўкнуўшы пад акном, стрымгалоў кінуўся на Букарава. Што духу паімчаў насустрач мужчыну з чамаданам у руцэ і праз момант ужо кідаўся на яго без лаю. Казаў бацька, што нават патрапіў лізнуць яго колькі разоў у твар. Як было не пазнаць нам таго, каго без мала два гады чакалі.

Не паспеў бацька дома агледзецца, як прыйшла павестка з ваенкамата — наказвалі неадкладна з'явіцца ў Смаргоні з канём і калясьмі. Атрымаў нарад вазіць каменне на пабудову аэрадрома. Новая ўлада загаспадарыла дынамічна. Некаму прырэзала панскай ды асадніцкай зямлі. Тут жа адразу клікала сялян у калектыўную гаспадарку, невядомую на заходнебеларускіх землях з часоў цара Гароху: абшчыннае землекарыстанне на тутэйшых абшарах адышло ў нябыт яшчэ з сярэдзіны XVI стагоддзя, часоў аграрнай рэформы Жыгімонта Аўгуста. Мужчыны з зімы 1940 года былі кінуты на высечку і тралёўку завілійскіх лясоў. Праз Залескую станцыю ішлі і ішлі эшалоны з чырвонаармейцамі і вайсковай тэхнікай, танкамі. Усё дзесь у адзін бок, на Захад.

Нядоўга давялося бацьку вазіць каменне на аэрадромную будоўлю. Ізноў загрымела, і на гэты раз мацней, чым калі. У нядзелю нехта прынёс аскабалак цёмна-срабрыстага металу, структурай падобнага да кары старой сасны. Быў гэта асколак бомбы, што скінулі немцы на нашу маленькую станцыю. На шчасце, нядбала мецiліся, прамахнуліся. На гасцінцах ноч і дзень грукацела, шумела. Залессе наша і блізкае ад яго Вётхава ляжаць паміж двух гасцінцаў: старога, які праставаў са Смаргоняў да Заскавічаў, Маладзечна і далей на Маскву, і навейшага, без абсады, што ішоў паўднёвей нас праз Паніззе, Сівіцу, Беніцу і зліваўся ў адзін шлях у Маладзечне. Немцы паказаліся ў нас няскора. З вайскоўцаў давялося бачыць перш-наперш чырвонаармейцаў, толькі не ў баявым шыку, як пры эшалонах, што нядаўна ішлі на Захад. Бацька прыводзіў іх цямнеючы ў хату, уладкоўваў нанач у тым застаронку гумна, дзе яшчэ заставалася крыху леташняй саломы. Раніцай рана яны знікалі гэтак жа непрыкметна, як і прыходзілі. Аднаго разу бацька, які хадзіў да шаўца Аляксандра Салагуба на Яраніну, днём прывёў чалавека без шапкі, коратка стрыжанага, у светла-зялёнай куртцы. З курткі той прыязны малады дзядзька дастаў мне некалькі алоўкаў — сапраўдны падарунак. Быў ён камандзірам танка. Яму ўночы ўдалося ўцячы з эшалону ваеннапалонных, якіх немцы везлі на Захад. Расказваў, скочыў на хаду з цягніка, кулі колькі разоў свістанулі над галавой. Убачыў палоскі поля — апала душа: маўляў, аднаасобнікі, не савецкая зямля, прапаў. Бацька гаварыў з ім добра па-руску — навучыўся ў палоне. Пераапранулі салдата ў сялянскае, далі торбу з боханам хлеба і кавалкам сала. Бацька раіў яму павесіць яе на граблі і даваць сустрэчным «Дзень добры». Адпраўляўся на Усход. «Буду жив, хозяин, доберусь до своих, никогда не забуду...»

Мне тады карцела адшукаць у альшэўніку яго танкісцкі шлем, які шчасліва ўцякач з палону, пакуль асмеліўся аклікнуць са свайго схову ў кустах бацьку, сунуў у карчы. Невядома, ці ўдалося бедачыне дабрацца да фронту: шмат небяспекі чакала тады чалавека.

З'явіліся і немцы. Самыя першыя з трэскам на матацыклетах праляцелі праз усю вёску і зараз жа павярнулі назад. Відаць таму, што з другога, палявога канца Вётхава, не было выхаду на гасцінец. Праз некалькі дзён яны павалілі групкамі па некалькі чалавек. І з вельмі нязвычным, як нам усім здалося, для салдатаў клопатам. «Матка, яйка, путэр, шпэк!» — наказвалі ваякі ў брудна-зялёнай форме, шапках лычом. Маці давала яйко на такую кампанію, і яны, удзячна махаючы галовамі «Danke, danke» ды нешта сабе гергечучы, вандравалі далей. К канцу дня, здаралася, ужо не было чаго даваць, чым адкупіцца, і маці абвяшчала ім папольску: «Нема яйка, пан. Шмат тут вас сягоння перавярнулася», — казала ўбок. Пры такой асечцы раз было салдат пагрозліва кінуўся да караніка з пчоламі. Але божыя стварэнні былі на старожы і пры набліжэнні салдата рупна бараніліся. Ваяўнічы тон чужаніцы змяншаўся, ён бег баразной назад да хаты, адганяючы рука-

мі ад шыі і вушэй раз’ятраных працаўніц мядовых палян. Раз, праўда, заглянулі да бацькавых пчол спецыялісты, не прафаны. З шасці каранікоў спрактыкаваным вокам адразу прыкінулі тры лепшыя сям’і, выбралі ўвесь мёд да апошняй рамкі. На той раз у хаце сталі збірацца суседзі. Мой малы брацік, седзячы на руках у бацькі, сарваў яго шапку і кінуў на рабаўнікоў. Тады адзін з афіцэраў, а гэта былі яны: па пагонах бацька расчытаў іх званні, дастаў пісталет і стаў акуратна выціраць яго насоўкай. Пасля таго наезду маці параілі схадзіць у гміну, ужо была арганізавана сякая-такая цывільная ўлада, і заявіць пра рабунак. Там сядзелі, аказалася, тутэйшыя людзі, і выпісалі нам як кампенсацыю дрэва. З тых нятоўстых сасонак бацька скідаў пад старой ліпай свіронак, якога раней у нас не было.

Быў яшчэ такі эпізод. Аднаго дня зайшоў у хату, пастукаўшы, салдат і, нічога не просячы, не загадваючы, стаў нялоўка таптацца пры сцяне, бліжэй да качарэжніка. «Што ён хоча?» — сумелася маці. «Дай ты, Алена, на ўсякі выпадак яму яйко», — здагадаўся бацька. Маці вынесла з сяней яму адно яйко, і сяржант, мяркуючы па пагонах, схапіў яго з незвычайнай радасцю ды заківаўся ў паклоне.

Зусім нечаканай для бацькоў аднойчы была прэтэнзія салдата, палітычна пільнага, ці яму не стала жаданага яйка, ці што іншае яго ўзбурыла, добра не памятаю. Помніцца адно, ён раптам вызярыўся на партрэт Янкі Купалы, што вісеў у нас з часоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Тады яго разам з кніжкамі, памятаў бацька, вазіла і прадавала нейкая жанчына з Вільні. Як на сягонняшні мой досвед, была гэта самавітая графіка мастака Язэпа Горыда. Выява паэта, ладная памерам, адбітая на кардоне літаграфскім спосабам. Купала ўдумліва, вачыма, поўнымі надзеі, глядзеў на свет, людзей — у будучыню. «Сталін!?» — тыцкаючы рукой у напрамку кута, дзе вісеў партрэт, злосна дапытваўся ваяка. Мабыць таму што нядаўна ў нас дзяржаўна гаспадарыла палынчызна і ад здагадкі, што сярод нямецкіх салдатаў траляліся пазнаньшчыкі, анямечаныя цягам гадоў, стараліся паразумецца з прыхаднямі па-польску. «To pisaz bialoruski», — даводзіў, тлумачыў блазнаватаму дапытвальніку бацька. Але той няўцямна глядзеў на гаспадара, аж пакуль бацька не спахапіўся і не стаў выяўляць у паветры рух пісання на паперы ды паказваць на паэта. Нарэшце, здаецца, да ідэалагічна пільнага ваякі штосьці дайшло, і ён апяшала, моўчкі шмыгнуў за дзверы.

Праз нейкі час прыход жабракоў у брудна-зялёнай форме прыпыніўся. Быў гэта, відаць, франтавы кантынгент, што пацёк сваім шляхам далей на Усход.

Аднае нядзелі на вётхаўскай вуліцы аб’явіліся нейкія нязвычныя ваяўнікі. Апранутыя ў светла-карычневую ўніформу, у адмыслова пераціснутых па сярэдзіне пілотках, праз вёску ехалі вясёлыя ўсмешлівыя вершнікі. У аднаго на сядле сядзеў прыгожы бухматы кот, у іншага з крупу каня звісала прытарочаная да сядла гітара. Яны не пабіраліся, не прасілі яйка, масла, сала, а проста ехалі ў свет ні як на вайну, а як на пагулянку. Некалькі чалавек спынілася пры нашых варотах, зайшлі ў хату. У нас на той час, як часта здаралася святочным днём, было дома пару суседзяў. Адзін з чужнікоў, чорны, белазубы, падышоў да стала, і торгнуўшы за край белага абруса, стаў нешта пытацца, вымаўляючы пры гэтым слова «рус». Затым падставіў бацьку прадплечча, паказаў рукой чытаць. На шчытападобнай нашыўцы бацька вычытаў слова «Espaniol...» «Гішпанцы?» — запытальна паглядзеў на візіцёраў бацька. Яшчэ паўтарыў: «Espaniol». Яны на знак згоды заківалі галовамі. «Глядзі, знаюцца на нашай геаграфіі, — сказаў бацька ўбок суседзяў. — Гэта ж, торгаючы белы абрус, дапытваюцца, мусіць, беларусы мы ці рускія». І выразна патросшы канец абруса, сказаў да гішпанцаў: «Рус», — а пад тое слова суседзі Іван Шыман і Южык Павел заківалі галовамі: беларусы!» Так як бы і паразумеліся. На тым і разышліся, узаемна ківаючы адны адным галовамі. Людзі, сарваныя крывавай паводкай вайны з Пірынеяў, і тутэйшыя хлебаробы, па зямлі якіх спрадвеку з Усходу на Захад і з Захаду на Усход ішлі ваяры, неснi галовы пад меч найчасцей не за свае, а за чужыя інтарэсы.

Было тое недзе ў канцы лета 1941-га. Бацька аглядаў шырокія калодкі — прыстасаванне, укапанае ў зямлю, на якім гнулі палазы. Большая з калодаў, эліпсападобная, дзеля трываласці была акута металічнай паласой. Бацька мацаваў тую шыну, пастукваў па ёй малатком. Я на той час круціўся пры ім, незаўважна да нас ціха падышоў чалавек і даў «Дзень добры». Бацька ўсміхнуўся яму як знаёмцу, падаючы руку для вітання. Я ж пазнаў у чалавеку колішняга купца нашай садавіны не адразу. Потым мільганула ў памяці, як прыязджаў ён да нас возам, удваіх з хлопцам, сынам ці, можа, парабкам. Дамовіўшыся з бацькам, пасылаў ён таго хлапца лезці на нашу вялікую грушу трэсці яе. Грушы падалі важка і доўга. Затым удваіх яны збіралі долу іх у вялікія кашы. Мне было неяк несамавіта на душы. Непатрэбнымі, мізэрнымі здаваліся тыя белыя манеты з выбітымі на іх арлом і вусатым чалавекам, што прыезджы даваў бацьку за грушы. Быў тады гэты чалавек жвавы, гаманкі. Цяпер жа прыйшоў панылы, няголены, у чорным пакорчаным касцюме, на якім была нашыта жоўтая латка. Яны даўгавата гаварылі з бацькам, прысеўшы на прысвіронку. Я цікаваў здалёк, бо бацька загадаў мне ісці пагуляць. Затым на кароткі час зайшлі ў хату. Калі чалавек пайшоў, я спытаўся, чаму на пінжак прычапіў ён тую латку-зорку. Бацька адказаў не адразу. Сказаў: «Не сам прычапіў, прымусілі... — і тут жа спыніў мой роспыт неяк нядбала. — Шмат будзеш знаць — рана састарэеш...» З размовы бацькоў улавіў няўцямнае слова «гета». Маці абраніла адно: «У бядзе чалавек, гора ў людзей...» Але не патлумачыла, што да чаго.

Быў канец жніўня, апошні спелы яблык ружавеў на старой дзедавай яблыні, як да нас на падвор’е зайшлі двое, цывільны ў суправаджэнні салдата. Спытаўшы, хто ёсць гаспадар, цывіль сказаў: «Нямецкая ўлада загадвае здаць радыёпрымач № такі-татакі». Наш дэтэктарны ўраз знік у салдацкім заплечніку. Аказваецца, наша радыёскрыначка са слухаўкамі ўжо ўлічана ў спісах нейкай структуры Рэйха як патэнцыйны сродак сувязі з вонкавым светам. Бацька каментаваў тое здарэнне словамі: «Хочуць, каб слухалі адно іх каманду».

Тут было як бы ўсё ясна. А вось некалькі дзён раней адбылася прыгода, што мяне, прызнацца, бянтэжыла. У нас на двары сабраліся людзі, вяскоўцы і прапанавалі бацьку быць як бы прадстаўніком іх перад нямецкай уладай. Мабыць, памятала вёска бацькава заступніцтва за яе кроўнае пры паляках. Бацька тады быў давераным вёскі, калі яна судзілася з панам за сервітут. Яшчэ перад сходам маці з бацькам нешта абмяркоўвалі, і цяпер бацька цвёрда выказаў людзям сваю нязгоду на іх просьбу. Сказаў, каб выбралі для гэтага каго-небудзь іншага. Мне было не зразумела, чаму бацька адмаўляецца ад даверу, які выказалі яму людзі, суседзі. Да таго ж для службовых патрэб яму абяцалі выдаць ровар. Мець ровар было маёй марай. Яшчэ большай, чым некалі лыжы. Тады, калі мне моцна зажадалася, бацька адразу выстругаў іх на варштаце і ўрачыста аб’явіў: «Маеш ясянёвыя, здолееш на іх бегаць з ветрам на перагонкі». Тым часам вецер не абганяўся, пакуль навучыўся на іх крочыць, часам станавіліся нажніцамі, і я ляцеў памірносам у снег. З роварам не выйшла, шкада. Пазней я ўразумеў бацькаву ўпартасць перад сходам. Меў рацыю, што не пагадзіўся тады з грамадой.

Што да шэфа новаўладнай тут структуры, солтыса, то ён нябавам быў выбраны ці хутчэй прызначаны. Мне разам з усімі давялося бачыць яго ў нашай хаце на сходзе. Перад сабранымі стаяў пажылы, сярэдняга росту чалавек у камізэльцы з аўчыны. Як на кій, ён абапіраўся адной рукой на старую зашмальцаваную стрэльбу, шапялявячы, нягучна прамаўляў да людзей. Пэўна, даводзіў нейкія патрабаванні новай улады, бо часам чулася адно, што запомнілася мне слова «парадак». Быў гэта Аўгуст з суседняй вёскі Міхневічы. Яшчэ ў тую вайну ён, кайзераўскі салдат, прыстаў наўпрымы да тутэйшай жанчыны. За дваццаць з лішкам гадоў у беларускім вясковым асяроддзі Аўгуст натуралізаваўся. Гаварыў па-нашаму, смешнавата скажаючы асобныя словы пры вымаўленні. Перадавалі са смехам сакраментальны выраз Аўгуста з яго нядоўгай начальніцкай практыкі: «Маўчы, жлодзей, бо заштрэлю і пойдзеш, плачучы!..» Яго добра ведалі ў ваколіцы, некаторыя маладзейшыя вучыліся ў яго сталяраваць. Благога на сваім становішчы нікому не паспеў зрабіць: не было такога ў яго натуры, а вось дапамагчы як солтысу яму часам удавалася. Так пры першым арышце дзядзькі Мікалая Германа, мужа маёй хроснай, Аўгусту ўдалося яго выбавіць. Коля Герман, родам з Зарудзіч, гадунец паэта, камсамольца-падпольшчыка з польскіх часоў, Алеся Салагуба, у 1940–1941 гадах рабіў сакратаром у Залескім сельсавеце. На трэці месяц вайны яго арыштавалі як савецкага актывіста і пасадзілі ў турму ў Старой Вілейцы. Цётка Вера, не марудзячы, пайшла ў Міхневічы да Аўгуста, і той на першым часе выратаваў свайго былога вучня-сталярука. Але такое ўдалося толькі раз. Партызанкі, хоць бы на знак, у той час у нас яшчэ не было. Дзядзька Мікалай, помніцца мне рослы, чарнявы, сядзеў ціха. Нідзе ні схінуўся. Праз пэўны час яго ў другі раз арыштавалі. Гэтым разам адначасна з самім Аўгустам. Казалі, спецслужбы, пэўна гестапа, раскапалі мінулае сталяра, уведалі, што быў ён сацыял-дэмакратам, і цяпер, значыць, разам з патэнцыйнымі праціўнікамі новага парадку падлягаў ліквідацыі. Яму, як і яго навучэнцу Герману, было наканавана не выйсці жывым з Вілейскай турмы. Дзядзька Мікалай, казалі, памёр там быццам ад тыфу. Перад тым родныя спрабавалі яго яшчэ раз выручыць. Дзед Юстын, папраканы за скупасць, не задумваючыся, выдаткаваў дачцэ некалькі залатых дзясятак царскай чаканкі, і цётка Верка адправілася ў Вілейку. Здолела дастукацца да нейкага там турэмна-лагернага начальніка. Быў гэты нехта рускі афіцэр на нямецкай службе па прозвішчы Някрасаў. Якраз піў каву ў сваім кабінеце. Размовы не атрымалася. «Герман Мікалай — камуніст, вораг Германіі і новай Еўропы. Гутаркі аб яго звальненні быць не можа. Ні пры якіх умовах...» Бедная хадайніца адчула бяссілле тут важкага высакароднага металу. Мог быць ён дзейсны пры выкупцы радавога ваеннапалоннага з-за дроту. Тут жа вырашала ідэалогія, устаноўка дзяржавы. Са скрухай і сардэчным болем вярталася мая хросная да хаты.

Быў час, і ён доўжыўся ўжо некалькі дзесяцігоддзяў, калі жыццё асобнага чалавека было надта мала чаго варта. І гэта ўсведамлялася не толькі дактрынёрамі рэальных палітычных сістэм, запанавалых у Еўропе, але такім яно было і ў вачах народу паспалітага, простых людзей.


Вёска Залессе

▸ КІНО

# ЧОРНАЕ І БЕЛАЕ НА БЕЛАРУСКІХ ЭКРАНАХ

Андрэй РАСІНСКІ

**На экранах — дзве стылёвыя гісторыі. Гатычная «Жанчына ў чорным» і «Беласнежка: помста гномаў» вылучаюцца дэкарацыйнай раскошай, густоўнымі дэталямі і ненавязлівым маралізмам.**




**Беласнежка: помста гномаў**
**(Mirror Mirror)**

ЗША, 2012, каляровы, 106 хв.
Рэжысёр: Тарсэм Сінгх
Ролі выконваюць: Лілі Колінз, Джулія Робертс, Армін Гамэр, Шон Бін, Натан Лэйн, Майкл Лернер
Жанр: сямейнае фэнтэзі з камічнымі элементамі
Адзнака: 3 зоркі з 5

Стужка «Жанчына ў чорным» Джэймса Уоткінза, знятая ў Вялікабрытаніі, — атмасферычная гісторыя з прывідамі. Малады юрыст Артур Кіпс, які пасля смерці жонкі выхоўвае маленькага сына, адпраўляецца ў закінутае мястэчка разабрацца са спадчынай памерлай самотніцы. Але чамусьці месцічы госцю не рады. Неўзабаве герой бачыць ля балота таямнічую даму ў чорным, а ў мястэчку пачынаюць гінуць дзеці.

У фільме галоўную ролю грае Дэніэл Рэдкліф, які пазбаўляецца ад навязлівага цэтліку «Гары Потэр». Але, хаця герой Рэдкліфа — інтэлігент, які любіць сына, сумуе па жонцы і амаль звыкла змагаецца з замагільнаю сілай, асноўная вынаходка карціны — брытанская старасвеччына, дзе ажываюць легенды і праклёны. Вялікабрытанія заўжды славілася палацамі з фантомамі і тарфянымі балотамі, дзе выюць злыя сабакі Конан Дойля.

Цікава, што гісторыя паводле кнігі Сьюзан Гіл упершыню пастаўленая ў 1989 годзе (гэтая тэлевізійная экранізацыя зусім не горшая за сённяшнюю). А п'еса «Жанчыны ў чорным» (назва спрачаецца з раманам Уілкі Колінза) — як з'явілася на брытанскіх падмостках, так ідзе і дасюль.

Кампанія, што ўзялася за паўторную экранізацыю, — легендарная студыя «Хамэр», якая ў 60-я гады вяла рэй у страшным кіно. Потым яна занепала, але нядаўна адрадзілася, як Фенікс з попелу. «Жанчына ў чорным» — густоўны працяг хамэраўскага стылю: роўная і прафесійная праца папулярных акцёраў, дакладнасць старасвецкіх дэталяў, занепалая раскоша віктарыянскіх сядзібаў.

Каб уразіць гледача, не трэба складаных камп'ютарных эфектаў: дастаткова цёмных шатаў, скрыпу, тумана і павуціны. Антыкварная машына (адмыслова ўзятая напракат), якая выцягвае з багны ўлікі старых грахоў, палохае болей за навамодныя візуальныя выбухі. А забытыя дзіцячыя цацкі (пазычаныя ў калекцыянера) — падступна трывожаць.




**Жанчына ў чорным** **(The Woman in Black)**

Вялікабрытанія–Канада–Швецыя, 2012, каляровы, 95 хв.
Рэжысёр: Джэймс Уоткінз
Ролі выконваюць: Дэніэл Рэдкліф, Кірэн Гайдз, Джанет МакЦір, Дэвід Бурк, Шон Дулі, Эма Шоры, Герман Молі
Жанр: Гатычны фільм жахаў
Адзнака: 3 зоркі з 5

І, нягледзячы на апошнія кінатэндэнцыі, дзе зло выглядае татальным, стваральнікі стужкі дакладна адмяжоўваць зло ад дабра: белае супраць чорнага.

Калі «Жанчына ў чорным» — гэта страшная гатычная гісторыя, то «Беласнежка» Тарсэма Сінгха — фэнтэзі з камедыйнымі элементамі. У гэтай карціне рэй вядуць залатыя і белыя колеры. Але золата ўпадабала падступная каралева.

Злая каралева захапіла ўладу і загадала забіць падчарку Беласнежку. Але дзяўчына выжыла — і ачоліла вызваленчы атрад гномаў-разбойнікаў. Заадно гераіня пнецца адбіць у каралевы зачараванага прынца, якога нягодніца прагне ажаніць на сабе.

Сучасныя прынцэсы самі каго-заўгодна вызваляць і каму-заўгодна надаюць у каршэнь. Іранічнае прачытанне казак — новы галівудскі стандарт, працярушаны «Шрэкам». Але «Беласнежка» Тарсэма Сінгха — не проста феміністскае фэнтэзі.

Стылёвая гісторыя з развінчана-пацешнымі казачнымі нестыкоўкамі і неверагоднымі касцюмамі нагадвае перабудовачную беларускую казку Леаніда Нячаева «Не пакідай». Абрабаваныя прынцы і незаконная ўлада, тайныя марыянеткі і падкрэсленая тэатральнасць збліжаюць карціны. Бярозавы гай (падгледжаны індусам Сінгхам у Андрэя Таркоўскага) і палац з залатымі купаламі геаграфію ўдакладняюць. А сцэна збору падаткаў раскажа ўсё пра дзяржаўную ідэалогію.

Фільм — бенефіс Джуліі Робертс, якая грае пякную каралеву-зладзюку, ад імя якой і вядзецца апавяданне. Шыкоўная марнатраўніца перастаўляе людзей як шахматныя фігуркі, але дабру яна прайграе.

Карціна — радасная казка, дзе зло любіць белае, у Беласнежкі — чорныя бровы, а гераічныя змагары — гномы. Але такія стылёвыя неспадзяванкі толькі адцяняюць, што ў чалавечым сэрцы. А ў сэрцы — святло... пад балівудскія танцы.



▸ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ЯНЫ ВАС ЧАКАЮЦЬ!

**ДЖЭСІКА — сабака вельмі эфектнай афарбоўкі**



Джэсіка маладая, ужо стэрылізаваная дзяўчынка, мае праблемы з выгулам, таму шукае дом з вальерам. Вясёлая, эмацыйная, кантактная, неверагодна прыгожая. Ужо вучыцца выконваць каманды, дэманструе добрыя ахоўныя якасці.

Валанцёры забралі яе з пункту адлову на Гурскага, і зараз яна шукае свой дом.

Калі вы марыце пра сяброўку, з якой не давядзецца сумаваць ані хвіліны, — Джэсіка для вас! Тэлефануйце 8-029 5597185 Аксана

**САЛАМЕЯ — фанатка чысціні**



Па недарэчных прычынах гэту цудоўную котку здалі на Гурскага. На шчасце, яна патрапіла да валанцёраў, дзе раскрыла ўсе свае добрыя якасці. Гэтая маладая котачка (10 месяцаў) спраўна ходзіць толькі ў латочак і ўжо стэрылізаваная.

Саламея вельмі шляхетная, з мяккім галаском і шаўковай поўсцю.

Пяшчотная цуда чакае вас! Тэлефануйце 8-029 107 90 79 Алена

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл.: (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 274

Падпісана да друку 23.03.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.